STOWARZYSZENIE MUZEUM
I OŚRODEK KULTURY BIAŁORUSKIEJ
w HAJNÓWCE
ul. 3 Maja 42
32 28 90















**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

9 жніўня 2000 года
Цана 85 рублёў

№ 32 (2694)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года

БЕЛАРУСКІ КРАЯВІД




*Касцёл імя Бязгрэшнага зачацця прасвятой Багародзіцы Марыі ў Паставах Віцебскай вобласці. Помнік архітэктуры ў стылі неаготыкі.*

ГАСЦЁЎНЯ

## Вольга ІПАТАВА:

# «У САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ ЁСЦЬ ДУХОЎНАЕ ЗЕРНЕ...»



*Саюз пісьменнікаў — самая сталая творчая арганізацыя нашай краіны, а яго 75-гадовая гісторыя вельмі складаная і неадназначная. Быў час, калі пісьменнікі, цалкам падпарадкоўваючыся пануючай ідэалогіі, выдавалі "нагара" толькі патрэбную ўладзе літаратуру (перад вайной 80 працэнтаў беларускіх аўтараў былі рэпрэсіраваны). І разам з тым менавіта пісьменнікі выступілі супраць палітыкі Мікіты Хрушчова, які марыў пра ўтварэнне адзінага народа з адзінай — рускай — мовай. Некалі гэта было самае ўплывовае творчае аб'яднанне краіны, сёння ж у яго адрас усё часцей гучыць крытыка. Тым не менш, Саюз беларускіх пісьменнікаў жыве, ён не распаўся, як у іншых постсавецкіх рэспубліках. А дзякуючы яго апошняй акцыі — удзелу ў "Літаратурным экспрэсе — 2000", пра які наша газета неадназова пісала, з беларускай літаратурай больш падрабязна, ці нават і ўпершыню, пазнаёміліся многія... краіны свету.*

*Пра сённяшнія клопаты і поспехі Саюза беларускіх пісьменнікаў мы гутарым з яго старшынёй — пісьменніцай Вольгай ІПАТАВАЙ.*

**— Вольга Міхайлаўна, якая задача з'яўляецца для вашага аб'яднання прыярытэтнай?**

— Канешне, абарона роднай мовы і літаратуры. Таму што менавіта пісьменнікі найбольш ясна разумеюць: без мовы няма народа. І, думаю, менавіта яны адыгралі выключную ролю ў тым, што мы ўвогуле ўсведамляем сябе беларусамі і можам казаць пра незалежную Беларусь. Уявіце, хто яшчэ будзе ініцыіраваць, напрыклад, святкаванне 100-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Жылкі, Уладзіміра Дубоўкі, Кузьмы Чорнага? А гэта нашы культурныя традыцыі, і мы абавязаны іх шанаваць. Дарэчы, зараз спрабуем увесці нацыянальнае святкаванне дзён нараджэння Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Багдановіча.

**— Саюз пісьменнікаў — заканадаўца у сваёй сферы ці носіць чыста кансультатыўны характар?**

— Некалі ён быў самым уплывовым творчым саюзам, але за апошнія гады мы ў многім згубілі свае пазіцыі. Магчыма, тут віна саміх пісьменнікаў, але і такога складанага перыяду ў жыцці народа таксама яшчэ не было. Хаця, я думаю, крызіс ужо пераадолены, і сведчанне таму — нашы семінары творчай моладзі, якія збіраюць многа ўдзельнікаў. Гэта вельмі радуе, бо нельга дазволіць, каб мы сталі апошнім пакаленнем, на якім нацыянальная мова і літаратура заканчваюцца.

Мы стараемся захаваць лепшыя традыцыі Саюза пісьменнікаў і пазбавіцца ад адмоўнага — залежнасці ад улады, "заказанасці" літаратуры, калі ідэалагічныя рэчы першынствуюць над сапраўды мастацкімі. Канешне, не ўсе ў Саюзе роўныя па таленту. Некаторыя, напрыклад, вядуць вялікую грамадскую работу, і іхняя вартасць не меншая, бо пісьменнік сёння, як і раней, змагар за беларускую мову. І гэта сумна: трэба было б не змаганнем займацца, а літаратурай, як у кожнай развітой краіне.

**— Сёння можна пачуць, што Саюз пісьменнікаў — "мёртвы", яго нават называюць "арцеллю з малымі правамі і абавязкамі". Як вы гэта пракаменціруеце?**

— Ёсць пэўныя падставы, каб так лічыць. У многім мы самі вінаватыя. Але ж у Саюзе пісьменнікаў ёсць духоўнае зерне, якое і дазваляе яму быць апірышчам народа — у большай ці меншай ступені. І гэты саюз вельмі патрэбны ў нашай краіне і нашых умовах.

**— Кажуць таксама і пра немагчымасць уступлення ў Саюз рускамоўных пісьменнікаў...**

— Няпраўда. Праўда ў іншым: 90 працэнтаў з тых, хто піша на рускай мове, пішуць слаба. Чаму так атрымліваецца — не ведаю. Я сама пачынала пісаць на рускай мове, але мае беларускія вершы аказаліся намнога лепшымі. Таму ўсё гэта надуманая праблема, якая цешыць самалюбства тых, хто не здолеў трапіць у саюз. А галоўная ўмова для прыёму — канешне, талент. І нашы патрабаванні становяцца ўсё больш жорсткімі. Напрыклад, стараемся не прымаць па адной кніжцы — для гэтага ўжо павінен быць вельмі магутны талент. Хаця колькасць кніг увогуле не мае значэння: сёння іх можна выдаць колькі захочаш.

**Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ.**

Заканчэнне на 3-й стар.

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

Мае любыя!

Вялікае ўсім вам прывітанне ад мяне, прывітанне маёй роднай Беларусі! Вялікі вам дзякуй. Учора атрымала 21-шы, 22-гі нумары газеты "Голас Радзімы". Вельмі ўдзячная. Спадзяюся, яшчэ буду вам пісаць. Усё можа здарыцца ў жыцці, бо цяжкія гады: усё выходзіць на старасць гадоў.

**Леанарда МАЛЕЕВА.**
Італія, Мілан.

*АД РЭДАКЦЫІ. Шаноўная спадарыня Леанарда! Дзякуй за прывітанне і добрыя адносіны. Мы таксама шчыра зычым Вам здароўя і ладу. Спадзяёмся на Вашы новыя допісы.*




НА БЕЛАРУСІ ПАДПІСАЦЦА МОЖА КОЖНЫ! Індэкс 63854, кошт на 1 месяц — 364 рублі.
У МІНСКУ ЗАЎСЁДЫ МОЖНА НАБЫЦЬ У МАГАЗІНЕ № 2 "БЕЛСАЮЗДРУКУ" — праспект Ф. СКАРЫНЫ, 44.
УКЛЮЧАНЫ Ў ПАДПІСНЫЯ КАТАЛОГІ РАСІІ, УКРАІНЫ, ЛІТВЫ, КАЗАХСТАНА, КЫРГЫЗСТАНА.

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# У СТАЛІЧНАЙ МАЛІНАЎЦЫ — «ПРАРЫЎ-2000»








Беларускі дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобыля" разам з маладзёжным сацыяльным цэнтрам "Майстэрня будучыні" правёў у сталічным мікрараёне Малінаўка вялікую акцыю пад агульнай назвай "Прарыў-2000". У яе ўвайшлі мастацкая галерэя "Ура! Канікулы!", арт-майстэрня "Афарбуй свой дах", спартландыя "Алімпійскі год", літаратурны салон "Падзяліся ўсмешкаю сваёй", музычная праграма "Нясумная Малінаўка".

Падвядзенне вынікаў акцыі з уручэннем прызоў і віншаваннем пераможцаў праходзіла ў сярэдняй школе № 174. Яго суправаджалі музычная праграма і калектыўны паход на дыскатэку.

НА ЗДЫМКАХ: валанцёры маладзёжнага сацыяльнага цэнтра "Майстэрня будучыні"; лаўрэат мастацкага конкурсу "Ура! Канікулы!" вучаніца СШ № 129 Алена ПАРТКОВА; каштоўныя прызы і дыпломы пераможцам уручае дырэктар МСЦ "Майстэрня будучыні" Ганна РУСЕЦКАЯ.

**Фота Аляксандра ДЗІДЗЕВІЧА.**

КАРОТКІМ РАДКОМ

Міністэрства аховы здароўя выступіла з ініцыятывай прыняць пастанову аб забароне курэння ў грамадскіх месцах. Пра гэта паведаміў намеснік міністра, галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Міністэрства аховы здароўя Беларусі Валерый Філонаў. Ён адзначыў, што зараз урад Беларусі распрацоўвае такую пастанову. У спіс месцаў, дзе будзе забаронена курэнне, увойдуць будынкі міністэрстваў, прадпрыемстваў, арганізацый, школ, іншых адукацыйных устаноў, бальніц, рэстаранаў, а таксама месцаў правядзення масавых мерапрыемстваў.

Зацверджаны план-праект рэканструкцыі Гомельскага хімічнага завода. Яна пройдзе ў тры этапы і разлічана на некалькі гадоў. Трэба будзе шмат зрабіць у цэху сернай кіслаты, дабудаваць трэцюю нітку вытворчасці двайнога суперфасфату. Вялікі аб'ём працы запланаваны і ў цэху фосфарнай кіслаты. Пасля рэканструкцыі прадпрыемства зможа не толькі забяспечваць мінеральнымі ўгнаеннямі сельскую гаспадарку Беларусі, але і значную колькасць адпраўляць на экспарт.

*(Па матэрыялах беларускіх газет).*

ЗДАРЭННІ

**ГРЫБНЫЯ РАЗБОРКІ. СА СТРЭЛАМІ.** Са з'яўленнем у лясах грыбоў на беларускае Палессе зaспяшаліся рознага кштапту фірмачы. З'явіліся яны і ў Жыткавіцкім раёне і пачалі паміж сабой канкурэнтную барацьбу за права купляць у насельніцтва гэтыя прыродныя дары, каб потым рабіць на іх бізнес: перапрадаваць у Польшчу ці прыбалтыйскія краіны былога СССР.

І вось у вёсцы Мілевічы лоб у лоб сышліся дзве фірмы з Мінскай вобласці. Адна закупляла ў людзей лісічкі па 1 200 рублёў за кілаграм, а другая, каб пераняць іх у яе, падняла тую цану на 200 рублёў. Канкурэнт тут жа зрэагаваў з усёй жорсткасцю: раструшчыў вагі саперніка і загадаў пакінуць вёску, пагражаў расправай.

Сапернік, адчуваючы, што ў гэтай сітуацыі ён слабейшы за свайго крыўдзіцеля, паімчаў дадому па падмацаванне, якое прыбыло ў Мілавічы на "Вольва-850", узброіўшыся гладкаствольным ружжом замежнай вытворчасці і газавашротным пісталетам. "Мерседэс-240" канкурэнта ў гэты час знаходзіўся каля будынка сельсавета, і яго гаспадарам было загадана рэціравацца з вёскі.

Атрымаўшы рашучую адмову, раз'юшаны фірмач прастрэліў усе чатыры колы "Мерса" і ўдарыў па газах, пра што стала вядома ў мясцовай міліцыі. Тая спрацавала аператыўна, зарыентаваўшы бліжэйшыя РАУС на затрыманне ўзброенага зламысніка, які разам з прадстаўніком эстонскай фірмы быў узяты паблізу вёскі Карасць Салігорскага раёна. Па ўзбуджанай крымінальнай справе вядзецца следства.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

ЗА РАДКОМ ЛІЧБАЎ

# ПАЖАДАННІ І МАГЧЫМАСЦІ НЕ ЗАЎСЁДЫ СУПАДАЮЦЬ

У 1999 годзе Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь абследавала 4 829 дамашніх гаспадарак, або 80,2 працэнта, што трапілі ў выбарку, у тым ліку ў гарадах — 3 106 (76,4 працэнта ад выбаркі) і ў сельскай мясцовасці — 1 723 дамашнія гаспадаркі (88 працэнтаў). І вось што атрымалася, калі перайсці на дакладную мову лічбаў.

На пачатак 2000 года ў рэспубліцы налічвалася 3,6 мільёна дамашніх гаспадарак. У гарадах — 2,5 мільёна (68,8 працэнта) дамашніх гаспадарак (з іх 30 працэнтаў — у вялікіх гарадах з колькасцю насельніцтва звыш 100 тысяч чалавек, 16 працэнтаў — у горадзе Мінску і 23 працэнты — у малых гарадах і пасёлках гарадскога тыпу) і ў сельскай мясцовасці — 31,2 працэнта. Сярэдні памер дамашняй гаспадаркі склаў 2,7 чалавека (такі ж памер дамашняй гаспадаркі ў гарадах і 2,6 чалавека ў сельскай мясцовасці). Як у горадзе, так і ў сельскай мясцовасці пераважалі малаколькасныя дамашнія гаспадаркі, якія складаліся з 1—2 чалавек (45,2 працэнта ў горадзе і 54,9 працэнта ў вёсцы). Доля дамашніх гаспадарак з 5 і больш чалавек склала 9 працэнтаў у сельскай мясцовасці супраць 7 працэнтаў у горадзе.

Удзельная вага сямейных пар, якія маюць дзяцей да 18 гадоў, — 43,9 працэнта. З агульнага іх ліку доля дамашніх гаспадарак, што маюць адно дзіця, склала 65,2 працэнта ў горадзе і 46,2 працэнта ў сельскай мясцовасці; дваіх дзяцей суадносна 30,9 працэнта і 42,5 працэнта, трох і больш дзяцей — 3,9 працэнта і 11,3 працэнта.

Сярод дамашніх гаспадарак, якія маюць дзяцей, расце доля няпоўных сем'яў, гэта значыць тых, якія маюць толькі аднаго з бацькоў.

Сярэдняя колькасць жылых пакояў, занятых дамашняй гаспадаркай, складае на працягу пяці гадоў 2,3, а сярэдняя іх плошча — 35 квадратных метраў. Больш за чвэрць дамашніх гаспадарак маюць у разліку на чалавека ад 9,1 да 13,0 квадратных метраў жылой плошчы, пятая частка дамашніх гаспадарак — больш за 20 квадратных метраў. Ва ўмовах, калі на аднаго чалавека прыходзіцца менш за пяць квадратных метраў жылой плошчы, пражывае каля 3 працэнтаў дамашніх гаспадарак.

Палепшылася добраўпарадкаванне жылля. Забяспечанасць дамашніх гаспадарак тэлефонам, цэнтральным ацяпленнем, каналізацыяй, гарачым водазабеспячэннем і водаправодам павялічылася ў параўнанні з 1995 годам амаль на 9 працэнтаў.

Маёмасная забяспечанасць дамашніх гаспадарак характарызуецца наяўнасцю ў іх прадметаў культурна-бытавога і гаспадарчага прызначэння. На 1 красавіка 2000 года ў сярэднім на 100 гарадскіх дамашніх гаспадарак прыпадала 110 халадзільнікаў і маразільнікаў, у сельскіх — 98; адпаведна 75 і 62 пральныя машыны, 68 і 29 электрапыласосаў; 100 і 65 каляровых тэлевізараў; 27 і 17 легкавых аўтамабіляў. Значна лепш гэтымі таварамі забяспечаны дамашнія гаспадаркі, якія маюць дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў.

На ўзровень жыцця насельніцтва істотны ўплыў працягвае аказваць вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі ў асабістых падсобных гаспадарках сельскіх жыхароў, на дачных і садова-агародных участках для гарадскіх жыхароў. Гэта прадукцыя ствараецца ў асноўным для ўжывання ўнутры дамашняй гаспадаркі (93 працэнты), а таксама для продажу і дапамогі сваякам (7 працэнтаў). Па выніках выбарачнага абследавання для 64,3 працэнта насельніцтва асноўнай крыніцай існавання з'яўляецца даход ад занятасці, у тым ліку ў гарадах — 68,3 працэнта і ў сельскай мясцовасці — 55,6 працэнта.

24,3 працэнта адзначылі асноўнай крыніцай свайго даходу пенсію.

Структура спажывецкіх расходаў адлюстроўвае ўзровень жыцця дамашніх гаспадарак: значная доля расходаў (58 працэнтаў) прыходзіцца на пакупку прадуктаў харчавання, і чым бяднейшая дамашняя гаспадарка, тым больш сродкаў затрачваецца на прадуктовыя тавары. Доля расходаў на прадукты харчавання ў параўнанні з 1998 годам узрасла на 3 працэнтныя пункты, што сведчыць пра зніжэнне ўзроўню жыцця насельніцтва. З агульнага аб'ёму расходаў на харчаванне амаль трэць (29,8 працэнта) ідзе на пакупку мяса і мясапрадуктаў, пятая частка (21,3 працэнта) — на хлеб і хлебапрадукты, 13,1 працэнта — на малако і малочныя прадукты, 7,7 працэнта — на цукар і кандытарскія вырабы, 5,2 працэнта — на рыбу і рыбапрадукты, 5,4 працэнта — на алей, маргарын і іншы тлушч, 4,4 працэнта — на агародніну, 4,1 працэнта на садавіну і 9 працэнтаў — на іншыя прадукты харчавання.

Другой па памеру крыніцай расходаў з'яўляюцца расходы на адзенне і абутак (13,7 працэнта). Доля расходаў на ахову здароўя як у горадзе, так і ў сельскай мясцовасці складае каля двух працэнтаў; на адукацыю, адпачынак і культуру — у горадзе складае 2,4 працэнта, у сельскай мясцовасці — 1,2 працэнта; на транспарт — 5,5 працэнта і 4,9 працэнта суадносна.

У 1999 годзе рост цэн на пакупку тавараў амаль у два разы апярэджваў рост кошту жыллёва-камунальных паслуг, у выніку чаго ўдзельная вага аплаты гэтых паслуг у спажывецкіх расходах панізілася з 3,6 працэнта ў 1998 годзе да 2 працэнтаў у 1999-м. У дамашніх гаспадарках сельскай мясцовасці расходы на жыллёва-камунальныя паслугі значна меншыя (1,2 працэнта), чым у горадзе (2,2 працэнта).

Нізкі ўзровень даходаў прывёў многія сем'і да мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў і да самазабеспячэння прадуктамі харчавання.

Колькасць ужытых калорый на душу ў сярэднім па рэспубліцы ў 1999 годзе склала 2 767 кілакалорый у суткі (у 1998 годзе — 2 781 кілакалорыя). Каларыйнасць прадуктаў харчавання значна адрозніваецца ў залежнасці ад узроўню забяспечанасці розных груп насельніцтва. Чым вышэйшы ўзровень даходаў, тым вышэйшая якасць харчавання. Так, калі ў ніжэйшай (найменш забяспечанай) квінтыльнай групе насельніцтва ўжываецца 2 053 кілакалорыі ў суткі на чалавека, у вышэйшай (найбольш забяспечанай) групе — 3 566 кілакалорый, гэта значыць вышэй у 1,7 раза.

Як паказваюць вынікі абследавання дамашніх гаспадарак, у рэспубліцы сфарміравалася досыць устойлівая група малазабяспечаных сем'яў, сярэднедушавыя даходы якіх знаходзяцца ніжэй устаноўленай рысы малазабяспечанасці.

Доля насельніцтва з даходамі ніжэй пражытачнага мінімуму склала 46,7 працэнта, пры гэтым 58,6 працэнта з іх пражывае ў горадзе і 41,4 працэнта — у сельскай мясцовасці.

Удзельная вага дамашніх гаспадарак з сярэднедушавым узроўнем даходу ніжэй пражытачнага мінімуму склала 40,4 працэнта. Больш за палову (57,5 працэнта) з іх складаюць сем'і з дзецьмі. Удзельная вага дамашніх гаспадарак, якія маюць даходы ўдвая ніжэйшыя за велічыню пражытачнага мінімуму, склала 4,3 працэнта супраць 2,1 працэнта ў 1998 годзе.

Вось такая карціна паўстае праз сухія радкі статыстыкі. Ну а на рэальнай справе ўсё гэта азначае, што пакуль у Беларусі жывецца складана.



ГАСЦЁЎНЯ

## Вольга ІПАТАВА:

# «У САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ ЁСЦЬ ДУХОЎНАЕ ЗЕРНЕ...»

Пачатак на 1-й стар.

**— Напэўна, пры цяперашнім росквіце "масавай" літаратуры Саюз пісьменнікаў павінен таксама выхоўваць густ чытача?**

— Канешне. У нас ёсць пяць сваіх выданняў — часопісы "Полымя", "Маладосць", "Нёман", "Крыніца", газета "Літаратура і мастацтва". На іх старонках стараемся трымаць высокую планку — трэба, каб хоць яны былі ўзорнымі.

І, вядома, стараемся падтрымліваць таленавітую моладзь. А бяздарнасці, як кажуць, праб'юцца самі. Якраз такія і зацікаўлены ў адмоўным іміджы Саюза пісьменнікаў.

**— Раней званне пісьменніка было не толькі ганаровым, але і прэстыжным: ён меў неблагія ганарары і пэўныя прывілеі. Здаецца, зараз былы прэстыж страчаны?**

— Сёння, каб нейкім чынам сябе пракарміць, працаваць пісьменніку трэба вельмі многа. У нашай арганізацыі сродкаў на дапамогу мала: увесь літаратурны фонд, які пры Савецкім Саюзе быў вельмі багатым — з кожнай выдадзенай кнігі і пастаўленай п'есы ў яго адлічалася 7 працэнтаў, — поўнасцю забралі масквічы. А беларускія пісьменнікі засталіся на пустым месцы, толькі з домам адпачынку "Іслач".

Адзінае: уступіўшы ў Міжнародны літаратурны фонд, мы атрымалі невялікую суму для дапамогі нашым састарэлым пісьменнікам. Акрамя таго, у нас ёсць прэзідэнцкія гранты і дзяржаўная стыпендыя — сёлета яе атрымалі шэсць пісьменнікаў. Але літаратурныя прэміі ў нас вельмі маленькія — тут больш гонару, чым грошай.

**Гутарыла Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

НОВАЯ ПРАДУКЦЫЯ




# ЗРОБЛЕНА Ў БЕЛАРУСІ

● **Аляксей МАЦЮШКОЎ.**

Грамадскі транспарт у Беларусі ўжо даўно патрабуе замены, але грошай на яго закупку ў краіне не хапае, бо набываць аўтобусы, тралейбусы, трамваі трэба было за мяжой. Урад Беларусі вырашыў наладзіць уласную вытворчасць неабходных машын, што дазволіць выканаць адразу дзве задачы: вырашыць праблему з транспартам і забяспечыць новыя працоўныя месцы.

Мінскі аўтамабільны завод распачаў выпуск камфартабельнага аўтобуса маркі "МАЗ". Нядаўна з тэхналагічнай лініі аўтобуснага філіяла сышла ўжо тысячная машына.

А вось вытворчае аб'яднанне "Белкамунмаш" пакуль выпусціла толькі адзін — эксперыментальны трамвай, які праходзіць выпрабаванні на вуліцах Мінска.




НА ЗДЫМКАХ: тысячны аўтобус мадэлі "МАЗ-103"; новы трамвай вельмі прывабны.

АСПЕКТ ПРАБЛЕМЫ

# ХТО ДАПАМОЖА БЕЗНАДЗЕЙНА ХВОРЫМ ПАМЕРЦІ БЕЗ БОЛЮ?

## У МІНСКУ СТВОРАНЫ ЦЭНТР ПАЛІЯТЫЎНАЙ МЕДЫЦЫНЫ

**Эмблема Цэнтра паліятыўнай медыцыны — кветка з сямю пялёсткамі-сэрцамі на блакітным фоне, колеры надзеі. У рускага пісьменніка Валянціна Катаева ёсць казка "Кветачка-сямікветачка", у якой дзяўчынка аддае апошні пялёстак-жаданне дзеля здароўя хворага хлопчыка. У цэнтры разумеюць сваю эмблему як сімвал імкнення падараваць любоў і дапамагчы пражыць канец жыцця без болю і страху, па магчымасці, паўнацэнна. Аўтар эмблемы — мастачка Святлана Кавалёва, якая хварэла на рак крыві і змагла яго пераадолець.**

Паліятыўная дапамога не скіравана на тое, каб чалавек паправіўся. Яна прымяняецца, калі лячэнне абмежавана ці вычарпана, і ўключае ў сябе абязбольванне, карэкцыю псіхаэмацыянальнага стану, дэтаксікацыю. Яна можа выкарыстоўвацца ў працы з рознымі хворымі. Цэнтр паліятыўнай дапамогі арыентуецца на навучанне медыкаў, якія працуюць з анкалагічнымі хворымі ў тэрмінальнай стадыі, іншымі людзьмі, якіх ужо немагчыма вылечыць. Мэта — аблягчыць жыццё такіх пацыентаў. Кіраўнік цэнтра — кандыдат медыцынскіх навук анкагематолаг Алена Смірнова. Яна працяглы час працавала ў Рэспубліканскім дзіцячым анкагематалагічным цэнтры. На Беларусі, на думку Алены Смірновай, няма комплекснай паліятыўнай дапамогі, за выключэннем, бадай, дзіцячага хоспіса, які быў створаны ў 1994 годзе як грамадская дабрачынная арганізацыя на базе Рэспубліканскага дзіцячага анкагематалагічнага цэнтра. У хоспісе сёння працуюць 20 кваліфікаваных спецыялістаў: юрыст, педыятры, медсёстры, псіхолаг, сацыяльныя работнікі, спецыялісты па фандрайзінгу (пошук грошай), валанцёры. Пад апекай хоспіса з дня яго з'яўлення знаходзілася 135 безнадзейна хворых дзяцей і падлеткаў. 87 з іх хварэлі на тэрмінальную стадыю раку, а 48 мелі невылечныя формы неанкалагічных захворванняў. Памерла 86 дзяцей (77 ад раку).

С 1995 года хоспіс дапамагае і дзецям з іншых рэгіёнаў Беларусі. Адбываецца гэта ў выглядзе візітаў (каля 250) і кансультацый. 36 дзяцей (34 з іх хварэюць на рак) атрымалі меддапамогу.

Сёння пад апекай хоспіса знаходзіцца 42 сям'і, якія маюць цяжкахворых дзяцей. Хоспіс працягвае падтрымліваць сем'і, што згубілі дзяцей. 74 з іх карыстаюцца дапамогай псіхолага пасля смерці дзіцяці.

Хоспіс — недзяржаўная структура, ён не ў стане (ды і не павінен) вырашыць вельмі балючую праблему — падтрымку паміраючых у межах усёй Беларусі. Па-першае, таму, што працуе толькі з дзецьмі. Па-другое, згодна з заявай Міністэрства замежных спраў РБ (1992 год), 20 працэнтаў насельніцтва нашай краіны атрымалі радыеактыўнае апраменьванне. Сярод іх — 800 000 — дзеці і падлеткі. Вынік катастрофы — рэзкае павелічэнне колькасці анкалагічных і іншых інкурабельных захворванняў. Таму арганізаваць якасную паліятыўную дапамогу ў неабходных памерах у стане толькі дзяржава.

Летась Міністэрства аховы здароўя РБ прыняло праграму першачарговых захадаў па арганізацыі паліятыўнай і медыка-сацыяльнай дапамогі ў сістэме аховы здароўя краіны. Але, як звычайна, не хапае сродкаў. А прадугледжвае праграма ўключэнне пытанняў паліятыўнай медыцыны ў праграмы медыцынскіх інстытутаў і вучылішчаў. Збіраюцца нават унесці прапанову, каб водпуск па догляду цяжкахворых аплачваўся. Зараз жа ў сем'ях той, хто даглядае цяжкахворага, вымушаны пакінуць працу, і людзі жывуць амаль у галечы. Дзяржаўная праграма прадугледжвае таксама распрацоўку нарматыўна-метадычных дакументаў для матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння хоспісаў і ўстаноў медыка-сацыяльнай дапамогі.

Але пакуль гэтыя планы толькі на паперы. Адзінае, што сапраўды адбываецца ў ажыццяўленні праграмы, — праца хоспіса. Дапамога дзяржавы яму складаецца з нізкай арэнднай платы за памяшканні. Праводзіцца шэраг семінараў, што ладзіць Цэнтр паліятыўнай медыцыны сумесна з хоспісам, на якія збіраюцца медыкі з усёй Беларусі з дазволу Міністэрства аховы здароўя. За два гады навучанне прайшлі 142 урачы, 27 медсясцёр, 10 псіхолагаў, 6 педагогаў, 7 сацыяльных работнікаў, 7 валанцёраў, 11 святароў. Актыўны ўдзел у семінарах бяруць аўстрыйскія медыкі з дабрачыннай арганізацыі "Hilfswerk Austria", якая, дарэчы, дапамагала будаваць у Бараўлянах сучасны дзіцячы анкагематалагічны цэнтр. Пра Цэнтр паліятыўнай медыцыны і яго клопаты расказвае **Алена СМІРНОВА**.

— Я лічу, пакуль у краіне няма сапраўднай паліятыўнай дапамогі людзям, хваробы якіх не лечацца, і не чакаецца, што чалавек пражыве досыць доўга.

Безнадзейна хворых выпісваюць са шпіталя. Чалавеку, які памірае ад раку, неабходна эфектыўнае абязбольванне, догляд, псіхалагічная дапамога, святар, у рэшце рэшт. Часам усё гэта неабходна і яго́ным блізкім. Менавіта дзеля аказання такой дапамогі і існуюць хоспісы, наш цэнтр. Хоспіс кожны дзень дапамагае дзецям, а цэнтр праводзіць навучанне мыдыкаў.

**— У чым галоўная патрэба паміраючых хворых?**

— Тут цэлы комплекс праблем. Самай сур'ёзнай я б назвала абязбольванне. На працягу дня (2 разы, не больш) да хворага прыходзіць медсястра з мясцовай паліклінікі. "Хуткую" можна выклікаць толькі ноччу, пасля 21 гадзіны. Медсястра без прадпісання ўрача ніколі не павялічыць дозу абязбольваючага. А ўрач, асабліва на вёсцы, наведвае паміраючых нячаста. Схема абязбольвання, дозы лекаў, рэакцыя арганізма ў кожнага свая. Многія хворыя на рак IV ступені, дзеці ў тым ліку, паміраюць з нясцерпнымі болямі. Калі ў пачатковай стадыі раку дапамагаюць анальгетыкі, то апошняя патрабуе больш моцных лекаў. Медыкі ўсяго свету сцвярджаюць, што па сіле ўздзеяння не існуе альтэрнатывы морфію. У нас жа яго баяцца, часам адмаўляюцца назначаць.

**— Чаму?**

— У айчыннай медыцыне існуе меркаванне, быццам морфій выклікае прывыканне, садзіць чалавека "на іголку". Але сусветная практыка сцвярджае: хворы на IV ступень раку не можа стаць наркаманам, па-першае, з-за працэсаў, якія адбываюцца ў яго́ным арганізме, па-другое, у чалавека на гэта проста няма часу. Мы так выхаваны, што баімся гэтага прэпарата. У хоспісе памірала дзяўчынка ад саркомы. Ёй было вельмі балюча, а бацькі адмаўляліся ад абязбольвання морфіем. Іх палохаў сам наркотык. Наша заканадаўчая база стварыла шмат абмежаванняў для прымянення морфію. Часта вызначанай дозы прэпарата, якую ўводзяць хвораму, недастатковая для купіравання болю. Боль жа — паняцце суб'ектыўнае. Існуюць методыкі для вызначэння парога болю. Але ж калі чалавеку засталося жыць некалькі дзён і ён кажа, што яму баліць, значыць, так яно і ёсць.

**— Здольнасць цярпець боль залежыць ад боязі адзіноты, дэпрэсіі. Балявы парог з'яўляецца псіхалагічным кампанентам?**

— Так. Дапамога псіхолага паміраючаму — вельмі актуальная праблема для нас. Такой практыкі няма на Беларусі, выключаючы зноў-такі хоспіс. Паміраючаму, асабліва дзіцяці, не хапае адных лекаў. Яму трэба, каб пра яго клапаціліся. Канешне, у бальніцы цяжка стварыць патрэбную атмасферу. Дзяржаве было б выгадна падтрымліваць хоспісны рух, тады б мы дапамаглі большай колькасці людзей дома.

У Вене, напрыклад, дзейнічаюць тры стацыянарныя і адзін амбулаторны хоспісы. Ёсць хоспісныя групы ў іншых гарадах. Эканамічнае становішча сем'яў дазваляе запрасіць спецыялістаў дадому. Дапамога хвораму аказваецца ў мульцігрупах, дзе працуе медсястра, псіхолаг, санітар. Разам дамагаюцца галоўнага: каб хворы не адчуваў моцных боляў, змог захаваць пачуццё ўласнай годнасці, нягледзячы на свой цяжкі стан. Момант радасці бывае нават і перад смерцю.

Псіхалагічная падтрымка вельмі патрэбная бацькам, родным і пасля страты дарагога чалавека. На апошнім семінары па паліятыўнай медыцыне выступаў незвычайны чалавек, пастар, кіраўнік групы санітараў Марцін Сорге. Дэманструючы слайды з момантамі жыцця цяжкахворых, ён падкрэсліваў, што, калі памірае маці і пакідае 16-гадовую дачку, існуе некалькі неадкладных праблем. Жанчыне патрэбны догляд, падтрымка. Маленькая дзяўчынка не можа заставацца адзін на адзін са сваім горам. Яе нельга ігнараваць, яна ў стане крыху дапамагчы маці — нанесці крэм, налажыць павязку. Тым самым дзіця дапаможа і сабе перажыць няшчасце, адчуе блізкасць з маці. Але дзяўчына-падлетак у падобнай сітуацыі можа палічыць, што маці пакідае яе ў самы неспрыяльны момант, калі ў яе жыцці столькі праблем! Дзяўчынцы трэба дапамагчы прыняць бяду і навучыцца жыць без маці. Кожная сям'я — гэта асобная гісторыя. Недасягальнасць псіхалагічнай дапамогі нараджае шмат праблем, якія застануцца на ўсё жыццё, не дазволяць пражыць яго паўнацэнна. Без спецыяліста бацькам, якія згубілі дачку ці сына, бывае немагчыма наогул працягваць жыццё, выхоўваць здаровых дзяцей. Размовы з псіхатэрапеўтам, які працуе з сям'ёй, што страціла дзіця, трохі суцяшаюць боль.

**— Медыкі, якія дапамагаюць паміраючым, робяць вельмі гуманную, але журботную працу...**

— Калі я працавала ў анкагематалагічным цэнтры ў хоспісе, часам, сапраўды, апускаліся рукі. Я добра памятаю памерлых хлопчыкаў і дзяўчынак. І калі ведаю, што мы хоць нечым дапамаглі ім, робіцца лягчэй. У хоспісе быў хлопчык, які марыў дажыць да свайго 14-годдзя. Мы зрабілі ўсё, каб Алег не адчуваў болю. Ён чытаў, займаўся на камп'ютэры. Казаў, што хоча памерці дома, каб побач быў брат. Ён дачакаўся свайго дня нараджэння.

Працаваць ды наогул быць побач з паміраючымі цяжка. Але ж нехта павінен клапаціцца пра жывых людзей, якія ўжо ніколі не будуць здаровымі.

**Алена СПАСЮК.**

АСОБА Ў БЯЗМЕЖЖЫ ЧАСУ

# АЙЧЫННЫ ЭДЫСАН

***Імя таленавітага беларускага вынаходніка Фёдара Яўстаф'ева (1862—1941) згадваецца ва ўсіх беларускіх энцыклапедыях і гісторыі развіцця савецкай авіяцыі. На яго рахунку — больш за сто патэнтаў і аўтарскіх пасведчанняў на розныя вынаходкі і ўдасканальванні ў водным і асабліва чыгуначным транспарце, а таксама ў станкабудаванні, абароннай, лёгкай прамысловасці і іншых галінах. За рознабаковую дзейнасць Фёдару Яўстаф'еву ў 1928 годзе было прысвоена званне Героя Працы. У 1932-м ён узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Апантанасць у творчым пошуку дазволіла яму, чалавеку з народа, былому плытагону, бурлаку, сталяру, падняцца да ўзроўню высокакваліфікаванага спецыяліста-канструктара, вынаходніка, вучонага-даследчыка.***

***...Так атрымалася, што пра яркае жыццё вядомага вынаходніка, беларускага Эдысана, я даведалася з расказаў яго сына — Серафіма Яўстаф'ева, у мінулым вядучага канструктара шэрага спецыяльных бюро, навукова-даследчага інстытута, таксама вынаходніка. Выкладаючы інжынерную графіку ў Беларускім політэхнічным інстытуце, ён удзельнічаў у распрацоўцы тэорыі праектавання светлаценевых форм. Пайшоўшы на пенсію, яшчэ доўга працягваў займацца канструяваннем і вынаходніцтвам.***

— Бацька не вельмі любіў успамінаць сваё дзяцінства, лічыў за лепшае жыць цяперашнім, а яшчэ часцей — будучыняй, — згадваў Серафім Фёдаравіч. — Толькі калі-нікалі скупа, пры выпадку, расказваў пра сябе... Нарадзіўся ён 12 кастрычніка 1862 года ў горадзе Трубчэўску ў сям'і казначэя Рыга-Арлоўскай чыгункі. У пяць гадоў асірацеў.

Тады ж яго прывёз у Бранск і ўзяў на выхаванне пільшчык лесу і плытагон Сцяпан Азараў, які жыў у Зарэцкай слабадзе на беразе ракі Дзясны.

Федзя плаваў па Дзясне на плытах, а пачынаючы з дзесяцігадовага ўзросту, разам з Азаравым — на бярліне (рачная баржа). Цяжкая праца вычэрпваць ваду з трума бярліны: стамляюцца рукі, пот залівае вочы, а рулявы ўсё падганяе. І ў галаве праносіцца думка: а што, калі ўпоперак пакласці жэрдку і да яе на вяроўцы падвесіць коўш? Тады пад цяжарам вады вяроўка нацягнецца, і толькі паспявай, размахвай каўшом, выплюхвай ваду за борт. Гэта і была сканструяваная Федзькам першая прымітыўная помпа, якая аблягчыла яго працу. Ён вёў падлік грузаў у спецыяльным журнале, а таксама ўсе грашовыя разлікі.

У 15 гадоў Фёдар паступіў вучнем у механічны цэх Бранскага арсенала. У 1899-м уладкаваўся на Радзіцкі вагонабудаўнічы завод, быў брыгадзірам, памочнікам вагоннага майстра...

Набыўшы вопыт вытворчай працы, Ф. Яўстаф'еў у 40-гадовым узросце сур'ёзна ўзяўся за вынаходніцкую дзейнасць. У 1903 годзе ён зрабіў мадэль воднага грабнога кола, выпрабаванне якога дало добрыя вынікі. Ідэя яго механізма падштурхнула да думкі аб стварэнні пад'ёмнай сілы лятальнага апарата — гелікаптэра. За чатыры гады ўпартай працы з дапамогаю сына Леаніда (урадавага штэйгера шарапанскіх марганцавых руднікоў) былі складзены чарцяжы, зроблены разлікі і тэхнічнае апісанне лопаснага лятальнага апарата і адпраўлены ў Пецярбургскую камісію па вынаходніцтву.

Такім чынам, у 1904 годзе, на заранку авіяцыі, Фёдар Фёдаравіч пачаў будаваць метровую мадэль гелікаптэра. У 1909 годзе яна экспанавалася на Кацярынаслаўскай прамысловай выставе і мела вялікі поспех. Пра яе нават пісалі ў кацярынаслаўскай газеце. Ішлі гады, але адказу з Пецярбурга не было. Нарэшце ў 1912 годзе атрымалі пакет за сургучнымі пячаткамі. Раскрыў яго Фёдар Фёдаравіч, а там: "Па Указу Яго Імператарскай Вялікасці, прывілея выдадзена мешчаніну Ф. Ф. Яўстаф'еву, які пражывае ў горадзе Гомелі, Магілёўскай губерні, на лятальны апарат з аўтаматычнымі лопасцямі, якія паварочваюцца, грабных колаў".

У гэты ж час мой бацька едзе ў Пецярбург, дзе назірае палёты Утачкіна. Вярнуўшыся дадому, ён бярэцца за распрацоўку чарцяжоў новага лятальнага апарата, што праз гады, у 1920-м, выльецца ў праект вінтаплана — прадвесніка сучаснага верталёта.

Затым усе сілы, талент і розум ён аддае ўдасканальванню чыгуначнага транспарту. Ён стварае лябёдку для буксавання паравозаў у халодным стане, затым стыкавае змацаванне, якое ўстараняла прагібы і штуршкі рэльсаў, сцэпку вагонаў пры дапамозе рычагоў, вынесеных за межы буфераў.

Але найбольш буйной вынаходкай стаў прыбор для ачысткі дымагарных труб. Ён змяшчаўся ў топку і саплом закрываў дымагарныя трубы. Па трубе, што злучае прыбор з катлом, ішла пара, якая стварала ў прыборы ціск, роўны ціску ў катле, і выбівала з труб сажу. Гэты прыбор з поспехам выкарыстоўвалі не толькі на чыгунках Расіі, але і іншых краін.

...1927 год. Бабруйскі лясны склад. Прадстаўнік замежнай фірмы важна паказвае пальцам, выбіраючы самыя магутныя дубовыя камялі для адпраўкі на экспарт у Германію.

— Як пагрузіць такія бярвенні на платформы? Колькі чалавек для гэтага трэба? — разважаў ён. — Расія такая адсталая краіна... Цікава будзе паглядзець, як рускія пад "Дубінушку" стануць грузіць гэтыя камялі...

А рабочыя ў гэты час прымацавалі да борта платформы дзве лябёдкі, падвялі тросы пад камялі і пачалі іх накочваць па латах на платформу. Немец нават рот адкрыў ад здзіўлення. На яго радзіме ў такіх выпадках прымянялі дамкраты Бекера — вельмі цяжкія і нязручныя для транспарціроўкі. А лябёдкі сістэмы Яўстаф'ева, пагрузіўшы партыю камялёў, паехалі разам з платформай працягваць пагрузку ў іншую частку склада.

У наступныя гады былі вынайдзены іскраўлоўнік на паравозах, шарнірны буксавы лом для перакочвання вагонаў, стэнд для абточвання паравозных колаў без выкочвання з-пад рамы, водакіпяцільнае скляпенне для паравознай топкі, эстакада для падачы вугалю на паравоз, новы тармазны кран для машыніста, станок для "віхравога" абточвання драўляных штыроў тэлеграфных траверсаў і шмат іншага. Усяго на яго рахунку 114 вынаходак. Яны нараджаліся не ў кабінеце за пісьмовым сталом, а ў штодзённай працы за варштатам. Праектаваць бацька навучыўся сам, калі яму было ўжо каля 40 гадоў. З Вільні ён выпісаў сабе гатавальню і ніколі з ёю не раставаўся. Вынаходкі даваліся нялёгка. У яго пакоі амаль да паўночы гарэла святло, і праз прыадчыненыя дзверы было відаць, як ён сядзіць за сталом, схіліўшыся над чарцяжамі. Масквіч Усевалад Рыло, таксама вынаходнік, пісаў пра яго: "Мяне заўсёды ўражвала і здзіўляла рэдкая працаздольнасць Фёдара Фёдаравіча, яго практычны розум, уменне ўсё рабіць сваімі рукамі".

На конкурсах за арыгінальнасць вынаходак бацьку часта прысуджаліся прэміі. Напрыклад, на конкурсе ў днепрапятроўскіх майстэрнях за соплы для прадзімання дымагарных труб і за цялежку для пад'ёму вагонаў. На працягу многіх гадоў ён канструяваў шчаціначасальную машыну. Яна была пабудавана ў 1936 годзе калектывам вынаходнікаў, арганізаваным Фёдарам Фёдаравічам у Гомелі. Машына ўяўляла сабой канвеер, што перасоўваў разасланую тонкім слоем шчаціну, якую расчэсвалі серпавідныя зубы, прапанаваныя мною. Гэтая машына паспяхова працавала аж да пачатку Вялікай Айчыннай вайны, замяніўшы працу 70 рабочых.

Члены Гомельскага гарадскога клуба вынаходнікаў часта прыходзілі да нас дадому. На стале шумеў самавар. Мая маці — Клаўдзія Аляксандраўна — частавала гасцей чаем з варэннем. Вечар праходзіў у доўгіх гутарках і абмеркаваннях рацыяналізатарскіх прапаноў. Клаўдзія Аляксандраўна бясплатна здымала для вынаходнікаў копіі чарцяжоў на сіньцы.

У 1939 годзе бацька прымаў удзел у І Усебеларускім з'ездзе вынаходнікаў у Маскве. Апошнія гады жыцця ён прысвяціў удасканальванню сваіх вынаходак. Яму ішоў восьмы дзесятак гадоў, усяго задуманага, на жаль, зрабіць не ўдалося...

***Хто, акрамя сына, у Беларусі памятае пра Ф. Яўстаф'ева — чалавека вялікага інжынернага таленту і творчага гарэння? Стэнды з матэрыяламі пра яго вынаходніцкую дзейнасць я знайшла ў музеі чыгуначнага вузла горада Гомеля, у Палацы культуры чыгуначнікаў. Ёсць звесткі і ў музеі мінскага аэрапорта, у Палацы прафсаюзаў, а таксама ў Маскве ў музеі Нацыянальнага камітэта шляхоў зносін. У Публічнай бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу захоўваецца прывілея (патэнт), выдадзеная Фёдару Яўстаф'еву за вынаходніцтва гелікаптэра. 24 красавіка 1984 года на будынку Гомельскага лакаматыўнага дэпо ў гонар нашага знакамітага земляка была адкрыта мемарыяльная дошка.***

**Таццяна ХРАПІНА.**

# А БАЛЬЗАМ ЖА — З БЕЛАРУСІ!

Бальзам Бітнера, шырока вядомы сёння па тэлевізійных рэкламах, які выпускаецца не ў нашай краіне, аказваецца, мае да Беларусі самае прамое дачыненне. Справа ў тым, што стваральнік бальзаму хірург Уладзімір-Адольф Бітнер пасля заканчэння Варшаўскага універсітэта ў 1884 годзе прыехаў у Свіслач (цяпер раённы цэнтр Гродзенскай вобласці), дзе займаўся лячэбнай практыкай. А тут жа пачынаецца Белавежская пушча з яе незлічонай разнастайнасцю лекавых траў. Вядома, што іх гаючымі настоямі міласэрны доктар лячыў мясцовых жыхароў бясплатна. І, відаць, небезвынікова, таму што добрым словам яго ўспамінаюць у Свіслачы па сённяшні дзень. Імем Бітнера названа адна з вуліц гарадскога пасёлка, яго магіла са словамі "Служыў чалавецтву і Богу" беражліва зберагаецца ўдзячнымі жыхарамі.

НА ЗДЫМКУ: знакаміты лекар пахаваны ў Свіслачы.

**Фота Рамана КАБЯКА**, БелТА.



ШЛЯХАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# БРАСЛАЎШЧЫНА

У студзені 1940 года быў прыняты Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР аб утварэнні Браслаўскага раёна. Да 1939 года існаваў Браслаўскі павет Віленскага ваяводства. У самім Браславе ў той час пражывала толькі 3 897 чалавек, хаця колькасць насельніцтва раёна была больш за 46 тысяч. Самымі буйнымі прадпрыемствамі лічыліся млын ды лесапілка, і ўся вытворчасць канцэнтравалася ў вёсках.

60 гадоў — маленькая пясчынка ў вечнасці. Праўда, змен адбылося многа нават за такі кароткі адрэзак часу. Значна вырас, пашырыўся, папрыгажэў Браслаў. 10,5 тысячы чалавек пражывае сёння ў горадзе. Пабудаваны і дзейнічаюць прамысловыя прадпрыемствы, створана база сельскагаспадарчай вытворчасці, пракладзены дарогі, пабудаваны школы, медыцынскія ўстановы, установы культуры, адраджаюцца рэлігійныя храмы. І, канешне ж, нельга не сказаць пра ўсім вядомы нацыянальны парк "Браслаўскія азёры". З 1995 года самыя прыгожыя мясціны, прыродныя багацці ўвайшлі ў яго склад. Увогуле, калі не сказаць пра азёры — асноўнае прыроднае багацце Браслаўшчыны, гэта значыць, нічога не сказаць. У адным толькі гэтым раёне налічваецца амаль 300 азёраў, якія займаюць каля дзесяці працэнтаў тэрыторыі. Значная частка азёраў аб'яднана ў розныя па велічыні групы. Найбольшая — Браслаўская — уключае звыш 50 вадаёмаў. Сустракаецца вялікая колькасць астравоў. Звыш 20 відаў рыбы насяляюць водныя прасторы. І ўсё гэта знаходзіцца пад аховай нацпарка.

Ганарыцца Браслаўшчына і імёнамі сваіх ураджэнцаў, якія зрабіліся вядомымі ў Беларусі, Польшчы, Літве, Расіі грамадскімі і рэлігійнымі дзеячамі, навукоўцамі, пісьменнікамі, мастакамі і якія пакінулі сваю спадчыну раёну.

Геаграфічнае становішча дазваляе кіраўніцтву раёна падтрымліваць сувязі з Прыбалтыйскімі дзяржавамі. Латвійскі горад Даўгаўпілс — найбліжэйшы буйны цэнтр (46 кіламетраў). У многіх літоўскіх, латвійскіх гарадах жывуць сваякі і сябры жыхароў Браслаўскага раёна.

Усё гэта так, але як адзначаўся дзень нараджэння, юбілей?

У раённым Доме культуры адбыўся ўрачысты сход, куды былі запрошаны шматлікія госці, у тым ліку з Віцебска і Глыбокага.

Старшыня раённага Савета дэпутатаў Р. Журня адкрыў і вёў урачыстасць. Віншаванні прыйшлі з памежных раёнаў Літвы і Латвіі, з Наваполацка. А завяршэннем свята стаў вялікі святочны канцэрт. Лепшыя калектывы мастацкай самадзейнасці выступілі ў дзень нараджэння іх маленькай радзімы, іх Браслаўшчыны.

**Таццяна ЯКУБЯНЕЦ.**



З ЗАЛАЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА МАСТАЦКАГА МУЗЕЯ

# ЯГО ПАРТРЭТЫ — ЛЮСТЭРКА ЧАСУ

У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі прайшла выстава партрэтаў вядомага беларускага мастака Якава Кругера (1869—1940), прысвечаная 130-годдзю з дня яго нараджэння. Яна стала сапраўднай падзеяй у мастацкім жыцці Мінска.

"Я — мастак з Мінска", — казаў пра сябе Я. Кругер, якому разам з горадам прыйшлося перажыць і вытрымаць шмат якія гістарычныя моманты XX стагоддзя.

Першым вядомым творам Кругера з'яўляецца алоўкавы партрэт рускага пісьменніка І. Тургенева, намаляваны ў 1883 годзе тады яшчэ вучнем рамесніцкай школы. Затым былі гады вучобы ў Кіеўскай мастацкай школе, Варшаве, Парыжы, Імператарскай акадэміі мастацтваў.

У 1900 годзе мастак вяртаецца ў родны горад, дзе пачынаецца яго актыўнае грамадскае і творчае жыццё, педагагічная дзейнасць. У гэтым жа годзе Я. Кругер атрымаў дазвол з Імператарскай акадэміі мастацтваў на адкрыццё ў Мінску школы малявання, дзе пачыналі сваю дзейнасць вядомыя беларускія мастакі: І. Ахрэмчык, М. Станюта, П. Мрачкоўская, Х. Суцін і іншыя.

Да выставы быў надрукаваны каталог твораў мастака. Чатыры гады працавалі над ім навуковыя супрацоўнікі музея Надзея Вусава і Валянціна Вайцэхоўская: збіралі ўспаміны, гістарычныя звесткі, удакладнялі даты. Каталог уключае каля двухсот адзінак жывапісу і графікі, але з іх захавалася толькі 25 — усе яны былі прадстаўлены гледачу. Сярод іх партрэты вялікіх беларускіх паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, вядомага яўрэйскага пісьменніка М. Мойхер-Сфорыма, вучонага С. Вальфсона, аўтапартрэты самога мастака. Прыцягвае асобую ўвагу сваёй прыгажосцю партрэт мінскай мастачкі П. Мрачкоўскай.

Цікавая падрабязнасць: на адкрыццё выставы была запрошана мадэль твора 1934 года "Партрэт дзяўчыны" — Тамара Хадынская. Менавіта ў далёкім даваенным годзе шасцігадовай бялявай дзяўчынкай яна пазіравала мастаку.

**Людміла НАЛІВАЙКА,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**



*Я. Кругер. "Партрэт ударніка", 1935 год.*

ВЫСТАВЫ



# ВАЖКАСЦЬ ТВОРЧАГА РАХУНКУ



Пад эгідай Міністэрства культуры краіны і Беларускага Саюза мастакоў у Рэспубліканскай мастацкай галерэі адкрыта выстава твораў Яўгена Ражкова, прысвечаная 80-годдзю мастака.

Ураджэнец Гомельскай вобласці, ён у 1939 годзе скончыў Ленінградскае вучылішча, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, узнагароджаны ордэнамі і медалямі, усе пасляваенныя гады, аж да 90-х, працаваў на Мінскім мастацка-вытворчым камбінаце. На яго творчым рахунку — макеты многіх будынкаў і збудаванняў, у тым ліку Цэнтральнай плошчы ў Мінску, удзел у рэспубліканскіх мастацкіх выставах. У апошнія дзесяць гадоў Яўген Назаравіч піша іконы як для цэркваў, так і для прыватных асоб.

Шматгадовая праца Я. Ражкова адзначана медалём Беларускага Саюза мастакоў "За заслугі ў выяўленчым мастацтве", пра мастака зняты тэлефільм "Душа стамілася ад бязвер'я", яго творы знайшлі месца ў краязнаўчым музеі на радзіме — у горадзе Рагачове, а таксама ў прыватных калекцыях многіх краін свету.

НА ЗДЫМКАХ: удваіх з беларускім жывапісцам Яўгенам ЦІХАНОВІЧАМ; на выставе мастака; плакат Я. РАЖКОВА, зроблены ў 1947 годзе.

**Фота Валерыя ХАРЧАНКІ,**
БелТА.




З АСАБІСТАГА АРХІВА Усевалада ІГНАТОЎСКАГА

# Усевалад ІГНАТОЎСКІ І ГОМЕЛЬШЧЫНА

● **Аляксандра ГЕСЬ,** *вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.*

У. Ігнатоўскі неаднарозова ездзіў у Гомель чытаць лекцыі. У 1923 годзе Гомельскі губаддзел Усерасійскага саюза Рабпрос дзякаваў за прачытаныя лекцыі і падораныя кнігі.

Імкненне абараніць нацыянальную культуру, выхаваць нацыянальную самасвядомасць — у імя гэтага Ігнатоўскі ехаў у Гомель чытаць лекцыі.

Так было ў час змагання за далучэнне Гомельскага і Рэчыцкага паветаў і пасля далучэння іх да БССР, калі на гэтай тэрыторыі стала актыўна праводзіцца беларусізацыя.

У кастрычніку 1926 года Гомельскі губпрос просіць Ігнатоўскага прыехаць для чытання лекцый як у Гомелі, так і ў паветах па пытаннях беларускай культуры. *"Средствами большими ни культотдел, ни горместкомы не располагают, и потому при ответе на наш запрос учтите это обстоятельство"*, — падкрэслівалася ў адносіне. Ігнатоўскі прапанаваў для чытання больш 10 тэм, сярод якіх наступныя:

1. Краязнаўчая праца і настаўніцтва.
2. Значэнне краязнаўчай працы.
3. Увагі да вынікнавення беларускага руху.
4. Беларускі рух і Кампартыя.
5. Міхась Чарот у беларускай паэзіі.
6. Мамэнты з гісторыі рэвалюцыйнага руху.
7. Кампартыя і нацпытанне.
8. Савецкая Беларусь у 9-ю гадавіну Вялікага Кастрычніка.
9. Заходняя Беларусь.

Згодна з рашэннямі Бюро ЦК КПБ, У. Ігнатоўскаму даручалася, акрамя чытання лекцый, падрыхтоўка матэрыялаў для выдання зборнікаў па Гомельшчыне, устанаўленне сувязі з краязнаўчымі арганізацыямі, арганізацыя вывучэння лінгвістычных матэрыялаў, збор песень, казак, абгаварэнне мэтазгоднасці склікання сходаў беларускіх настаўнікаў і культпрацаўнікоў для высвятлення вопыту працы па беларускай мове і план правядзення далейшай работы. Пад уздзеяннем растлумачальнай працы сярод настаўнікаў і жыхароў абуджалася цікавасць да беларускай культуры, мовы, гісторыі.

Такім чынам, дакументы Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь даюць падставы для высновы, што Гомельшчына была для Ігнатоўскага блізкай і роднай.

Сярод дакументаў па Гомельшчыне, якія былі адрасаваны Усеваладу Макаравічу, ёсць копія ліста, накіраванага Адамовічу, праўда, з паметай "Ігнатоўскаму — да ведама". Аўтар ліста — сакратар беларускай секцыі камсамола А. Палонскі. Факты знаёмыя. Што было ў 1921, 1923 гадах, тое ж і ў 1926-м.

*"Тав. Адамовіч!*

*Гэты ліст я пішу Вам з мэтай азнаямлення Вас з некаторымі момантамі практычнае пастаноўкі беларускага пытання ў Гомельшчыне.*

*Уласна кажучы, я, як сакратар беларускае сэкцыі губкамола, афіцыйна павінен быў бы мець па пытанням беларускае працы непасрэдную сувязь з ЦК ЛКСМБ і такую нават дырэктыву атрымаў пры ад'ездзе з Менску ў Гомель, а ЦК КП(б)Б заставіла асабістую партыйную справу актыва ў сябе, але ж склаўшыяся ў працэсе абставіны прымусілі парваць усякую непасрэдную сувязь з Менскам. Аднак пытанне беларускае працы ў Гомельшчыне настолькі з кожным днём набывае сур'ёзнае значэнне, што я парашыў Вам напісаць гэты ліст.*

*Мне прыйшлося ўжо пабываць у шмат якіх вёсках Гомельшчыны і пераканацца ў тым, што насельніцтва Гомельшчыны ў абсалютнай сваёй большасці — беларускае і што яно жыве тым жа самым жыццём, што і насельніцтва Беларусі. І нават Старадубскі павет, дзе, здаецца, большасць украінцы, сам украінскі інспектар пасля абгляду сказаў, што і там беларусы. Паколькі маецца такі малюнак, то беларускае пытанне само сабою павінна набыць сур'ёзнае значэнне. Аднак што ж на самай справе робіцца ў гэтых адносінах на Гомельшчыне? І тут трэба прама сказаць, што беларускае пытанне (правядзенне гэтае працы) само выбухае непасрэдна ў нізах, без хаця б малай чуласці да яго з боку кіруючых партыйных і савецкіх органаў.*

*Ёсць цэлы шэраг прыкладаў нячулых адносін да беларускае працы, а з другога боку, ёсць прыклады напору з боку нізоў у адносінах беларускае працы — ёсць шмат фактаў, калі само сялянства запатрабуе беларускае працы, як запатрабаванне сялянамі слаб. Аннаполля Чачэрскае вол. аб арганізацыі беларускага сельсавета, запатрабаванне сялян вёскі Покаць Свяцілавіцкае вол. аб арганізацыі беларускае сямёхгодкі, запатрабаванне камсамольскіх ячэек аб пераводзе іх працы на беларускую мову і шмат іншых прыкладаў.*

*Такія настроі маюцца ў нізах сялянства, нягледзячы на тое, што на бел. мове нідзе не гавораць людзі адукаваныя — служачыя.*

*Трэба сказаць, што інтэлігенцыя зайшла значна далей. Вясковы настаўнік пачынае будаваць беларускую школу.*

*Можна прывесці цэлы шэраг прыкладаў у гэтых адносінах. І ўсе яны кажуць за тое, што беларускае пытанне на Гомельшчыне з кожным днём набывае ўсё большае і большае значэнне.*

*Трэба сказаць, што Вашае выступленне па пытанню Гомельшчыны на апошняй сесіі СССР і даклад на пленуме ЦК КП(б)Б яшчэ больш ускалыхнулі настроі асоб, пачынаючых брацца за беларускую працу. І Вашы заявы адносна Гомельшчыны не пройдуць у нас ціха, як з аднаго, так і з другога боку.*

*Паўстае пытанне — як жа глядзяць на пытанне беларускае працы партыйныя апараты і ў прыватнасці сам Гомельскі губком ВКП(б)? Тэарэтычна зусім зразумелы погляд, але ж, калі падыходзіць да практычнае пастаноўкі беларускага пытання, то прыходзіцца зараней сказаць, што практычная пастаноўка беларускага пытання, нават з боку самога губкома ВКП, не кажучы ўжо пра нізавыя апараты, чрэвата вынікамі. Гомельскі губком ВКП паўтарае памылку ў беларускім пытанні, якая была зроблена камуністычнай партыяй Беларусі ў перыяд 17—19 гг. У гэтым я глыбока пераканаты і аб гэтым пішу Вам, а калі запатрабуецца, то так напішу і т. Сталіну. Губком не хоча бачыць тое, што пачынаецца ў нізах, ён кажа, што ў Гомельшчыне няма беларусаў, калі ёсць, то без сваёй мовы, дзякуючы чаму можна з беларускай працай пачакаць — "трэба бачыць уперад" (як сказаў на пасяджэнні бюро губкома ВКП т. Заслаўскі адносна рэплікі аб далучэнні Гомельшчыны да Беларусі). "Авось" удасца не даць беларускаму руху ў Гомельшчыне магчымасці разгарнуцца", — так ставяць некаторыя адказныя партыйныя працоўнікі Гомельшчыны пытанне.*

*Такія настроі знайшлі ўжо сабе рэальны адбітак. Так, напрыклад, пасля доўгае працы беларускай секцыі па беларусізацыі Гомельскага педагагічнага тэхнікума, калі ўся цяжкая праца ўжо зроблена, бух пастанова губкома ВКП — тэхнікум цягнуць назад — русіфікаваць, нягледзячы на тое, што слухачы ў значнай сваёй большасці беларусы, і шмат іншых прыкладаў, як: не дазваляць пра беларускую працу змяшчаць артыкулы ў мясцовай газеце, не лічыцца з запатрабаваннямі сялян адносна беларускіх сельсаветаў і арганізацыі беларускае школы. Акрамя гэтага, прыходзіцца зазначыць і такія заявы асобных таварышаў (адказных губкомцаў), што* **гаварыць пра Беларусь з масамі ёсць палітычная памылка...** (падкрэслена намі. — **А. Г.**)".

Такім чынам, прыведзеныя дакументы сведчаць, што беларуская культурная праца, павышэнне нацыянальнай свядомасці былі актуальнымі. І паперы з архіва У. Ігнатоўскага — таму доказ. Насельніцтва Гомельшчыны спачувальна адносілася да ідэі ўз'яднання з БССР, а партыйныя і савецкія ўлады ставіліся да гэтага варожа.

У снежні 1926 года Гомельскі і Рэчыцкі паветы па рашэнні вышэйстаячых органаў былі далучаны да БССР. І вялікая роля ў гэтым працаўнікоў на ніве беларускага школьніцтва, такіх, як А. Бажкоў, М. Каршукоў, П. Шчарбінскі і многія іншыя.

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 28—30.**

## ПРЫСВЯЧАЕЦЦА Луі АРМСТРОНГУ



● **Валерый ХАРЧАНКА.**

У вялікім джазавым шоу Белдзяржфілармоніі, прысвечаным 100-годдзю з дня нараджэння вялікага джазмэна Луі Армстронга, прыняў удзел і ансамбль традыцыйнага джаза "Рэнесанс", створаны яшчэ ў 1977 годзе. За гады свайго існавання ён пабываў з гастролямі ў Віцебску і Рызе, Петразаводску і Маскве, Яраслаўлі і Самары, Горы і Душанбэ, Крывым Рогу і іншых гарадах былога Савецкага Саюза. "Рэнесанс" удзельнічаў у джазавых фестывалях у Германіі і Расіі, выступаў у канцэртнай зале імя П. І. Чайкоўскага ў Маскве, ён — уладальнік Гран-пры Міжнароднага джазавага конкурсу-фестывалю ў Польшчы ў 1998 годзе.

НА ЗДЫМКУ: ансамбль традыцыйнага джаза Белдзяржфілармоніі "Рэнесанс".

## УРАЖАННЕ

# ПАМІЖ ДВУМА ПАВЕРХАМІ

● **Масей СЯДНЁЎ.**

У выдавецтве "Беларускі кнігазбор" (Мінск, 2000) выйшаў зборнік паэзіі Галіны Тврановіч-Сеўрук "Верасы Дараганава". Варта адзначыць, што Дараганава Асіповіцкага раёна — не толькі мейсца нараджэння паэтэсы, а й той улюбёны ёю непаўторны свет, у якім яна склалася, урасла ў яго і які стаўся для яе — не хачу перабольшыць — у пэўным сэньсе мераю ўсяго існага. Пра сваю закаханасць у Дараганава гераіня гаворыць у вершы "Сонца": "Дакладна ведаю ад нараджэння: праменчыкі стому страсаюць не ў слаўным Нёмане ці Дунаі — у Пціч". Або яшчэ: "Маё сонца бавіць кароткую летнюю ноч толькі ў верасах пад Дараганавым".

"Верасы Дараганава" — другі зборнік Галіны Тврановіч-Сеўрук. У 1996 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" (Мінск) пабачыў свет першы зборнік "Ускраек тысячагоддзя". Паводле задумы аўтара, "Верасы Дараганава" мусілі выйсці перад "Ускрайкам", паколькі "Верасы" зьмяшчаюць раннія вершы паэтэсы, але так не сталася. У лісце да аўтара гэтых радкоў яна зазначае, што "Верасы Дараганава" — гэта яе "рэтра".

Зазірнем жа, наколькі будзе змогі, у гэтае "рэтра", у зборнік "Верасы Дараганава".

Зноў жа, як і ў папярэднім зборніку, у "Верасах Дараганава" мы маем дачыненне не з паэзіяй проста, не з паэзіяй звычайнай, а з паэзіяй арыгінальнай, цікавай сваімі паэтычнымі знаходкамі, з паэзіяй, што закранае пытанні быційнага, экзістэнцыянальнага парадку. Як і ў зборніку "Ускраек", тут вечная суаднесенасць: зямля — неба, дольняе — горняе. Як кажа гераіня: "Воляй Бацькі-Бога разгорнута дзівосная мапа Сусвету з горнім і дольнім паверхамі". У вершы "Верую" дзейнасць душы ахарактарызавана, як "траекторыя руху душы" паміж дольнім і горнім паверхамі, як "кіпенне быцця", у якім разыгрываецца драма чалавецтва. Пры пакутным хістанні паміж паверхамі немагчымая тая раўнавага, якой бы хацелася. Каб вызваліцца з "вярыгаў слабое плоці", збавіцца ад **"цяжару плоці"**, гераіня просіць: "...вынайдзі, Божа, мне... чэмернай горкай плоці апраўданне на шляху да Твайго Жніва". І гераіня "Выносіць прысуд — сабе". Тым не менш яна хацела б "прагным глытком асушыць гарачую чару — кіпенне быцця — да самага дна". Гераіня зазначае, што яе вечнае "я" насміхаецца з таго "я", што зняволена ў **"вярыгах плоці"**.

У першым вершы зборніка мы чытаем: "Марудны той разбег. Вялікай птушцы крылы быццам замінаюць. Не даецца разам вышыня. Учэпіста, уладна дзержыць набраклая залеваю зямля". Але дармо: "...пакрысе спеюць высі і крылы крэсляць Шлях".

Гераіня скардзіцца, што яна "стомленая на пралётах між паверхамі", і вяртаецца да "гаючай ... першакрыніцы — Хрыстова Крыжа". Яна падуладная **"лёсу ўладнаму"**. Што б ні напаткала гераіню на гэтым дольнім паверсе, яе вера не аслабне ў **"ацаленне жыцця Цудам"**. У вершы "Ты Сам пераводзіш стрэлкі гадзінніка" гераіня выказвае ўпэўненасць, што Усяісны... у шчодрай задуме пра чалавецтва падбае пра "ацаленне жыцця Цудам". Ён жа бо "пераводзіць стрэлкі гадзінніка бясконцых сусветаў, таемных лёсаў".

Гераіня добра ўсведамляе, што побач жыцця, "ацалелага Цудам", існуе такая заканамернасць, як Смерць, і ўсведамляючы такую заканамернасць, не мае страху перад Смерцяй: "Я ведаю, што я памру, толькі хачу пазбыцца віны за неўдзячнасць перад жыццём", яна просіць Бога даць ёй магчымасць "аддзячыць неўдзячных". Яна смуткуе па тых, што адыйшлі, бо ж з кожным адыходам змяншаецца свет на адзін свет. Пра смерць сваёй маці яна гаворыць: "На свет паменшыла у белым свеце — сышло святло матуліных вачэй". Аднак гераіня ведае, што жыццё неўмірушчае, яна зайздросціць старой яблыні і грушы: "Шчаслівыя сваімі спевам і кветам, штогод выказваюць свету сябе — наноў".

Мы вышэй адзначалі, што Дараганава для паэтэсы — гэта ў нейкай ступені мярыла ўсяго. Мройнай, ёй прыгадваецца, сніцца ранейшае Дараганава з ракой Пцічай побач. "Чую, як званы святочна збіраюць на літургію верных Крыжу, чую царкву над маёю ракою. Праз масточак, якога даўно ўжо няма, паспавядацца і Ахвяру прыняць спяшаюцца мама з бабуляй. Наводдаль стаю, узіраюся ў твары — не зважаюць, не хочаць сваёй прызнаць. Званіцы завуць — агністая зелень ваколіц".

Што яшчэ звяртае на сябе ўвагу, дык гэта ўкропленыя ў зборнік своеасаблівыя экслібрысы, запоўненыя тэкстамі з вершаў папярэдняга зборніка, з "Ускрайку", напрыклад: "Ажыла званіца над стольным Менскам, Анёльскіх хораў галасы імкнуць увысь узнесці горад". Або: "Не мітусіся. Хай рунь зялёнага твайго даверу кволага абудзіцца ў жыцці. І я прыду".

Закончым нашу нататку маленькім вершам-малітвай, што займае ў зборніку асаблівае мейсца:

*Асмелюся, Літасцівы,*
*прасіць —*
*маленне ў сілу ўвесці,*
*завесу варожае цемры*
*прарваць,*
*шкодзіць святлу забараніць,*
*атрутныя хмары спыніць,*
*нашу зямельку і люд яе*
*ацаліць.*
*Асанна!*

Асанна, Спадарыня Тврановіч-Сеўрук!

ЗША, Глен Коў.

## БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

# ШЧЫРАСЦЬ ТУТЭЙШЫХ — ГАЛОЎНАЕ БАГАЦЦЕ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

*Консул Павел ЛАТУШКА (спачатку віцэ-консул) працаваў у Генеральным консульстве Рэспублікі Беларусь у Беластоку (Польшча) чатыры гады. 6 ліпеня вярнуўся на дыпламатычную працу ў Міністэрства замежных спраў РБ у Мінску. Перад ад'ездам консул і яго жонка Наталля далі развітальнае інтэрв'ю. Гутарыць Ада ЧАЧУГА.*

— Я заўсёды марыў аб тым, каб працаваць у Польшчы ці Літве. Шмат супольнага ёсць у нашай культуры і звычаях.

Генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку — гэта адзіная тут замежная ўстанова, а ты як прадстаўнік суседняй краіны нясеш адказнасць за кожнае дзеянне і кожнае слова. Консульства ў Беластоку — адна з найбольш складаных устаноў у галіне дыпламатыі. У працы тут перасякаюцца розныя праблемы.

Перш за ўсё, консульства абараняе грамадзян Беларусі. Калі яны прыязджаюць у Польшчу, здараюцца розныя выпадкі, па 5—8 чалавек у дзень прыходзіць з просьбай дапамагчы вярнуцца дахаты, бо іх абакралі.

Па-другое, гэта беларускі грамадскі рух і справы, звязаныя з беларускай меншасцю на Беласточчыне.

Трэцяя справа — праблема пагранічных пераходаў. Той, хто не займаецца гэтым, не ўяўляе сабе, да якой ступені цяжкая гэта справа.

Чацвёртая з важнейшых праблем — гэта гаспадарчыя рэгіянальныя сувязі, а апрача таго, ёсць шмат-шмат іншых.



*Консул Павел ЛАТУШКА з жонкай Наталляй у Цэнтры праваслаўнай культуры ў Беластоку.*

**— Сапраўды, працы тут хапае. Але нас найбольш цікавіць, як ставіцеся вы да беларускага грамадскага руху на Беласточчыне.**

— Я выхаваны ў Мінску ў свядомай беларускай сям'і. Яшчэ будучы ў Мінску, нейкую інфармацыю пра беларускі грамадскі рух у Польшчы я меў. Аднак не мог уявіць сабе, што ён мае аж такія памеры і тое, што ёсць тут не толькі Беларускае таварыства і беларускія мастацкія калектывы, што беларускую мову вывучаюць у многіх падставовых школах і ў двух ліцэях, ёсць беларускія газеты, выходзяць кніжкі на беларускай мове, ідуць перадачы на беларускай мове па радыё і тэлебачанні... Гэтага я не ўяўляў.

У жніўні дзевяноста шостага трапіў на першы беларускі фэстын, які арганізавала БГКТ. Ён адбываўся ў Гарадку. За чатыры гады ўбачыў шмат цудоўных мерапрыемстваў, якія ладзіла БГКТ, і дзейнасць гэтай арганізацыі выклікае ў мяне вялікую павагу. Беларуская мова, цудоўнае выступленне гарадоцкага калектыву, свае людзі. Гэта было маё першае моцнае ўражанне на Беласточчыне. Другое — калі мы ў тым жа месяцы паехалі з Генеральным консулам Міхасём Слямнёвым на Святую Гару Грабарку. Пазней ездзілі туды штогод. Мой погляд на Беласточчыну фарміраваўся пад уплывам беларускага грамадскага руху і Праваслаўнай Царквы, а асабліва тадышняга архіепіскапа Беластоцка-Гданьскага, сёння мітрапаліта Савы.

**— Спадарыня Наталля! Як вы ўспрынялі Беласточчыну?**

— У восемдзесят восьмым годзе я была ў Варшаве, але пра Беласточчыну фактычна не мела ніякага ўяўлення. Тут мяне ўразіла, што настолькі развіта беларуская культура: фестывалі беларускай песні, на якіх збіраецца столькі людзей, беларускія фэстыны на вёсках, летам мы практычна кожны тыдзень былі на нейкім фэстыне, якіх вельмі шмат арганізоўвае БГКТ. Асабліва ўражанне, як многа моладзі ў беларускім мастацкім руху. Вельмі важныя таксама конкурсы беларускай песні і дэкламатарскія конкурсы для школьнікаў. Гэта залог таго, што беларускасць на Беласточчыне жыве і будзе жыць.

**— А як адчувала сябе ў Беластоку ваша дачушка Яна?**

— Яна хадзіла ў беларускае прадшколле. Тут, на Беласточчыне, навучылася размаўляць на беларускай мове. Тут яна развучыла шмат беларускіх вершыкаў і песень. Як пяцігодка ўдзельнічала ў розных конкурсах. Атрымала свой першы дыплом і спецыяльную ўзнагароду ў дзіцячым дэкламатарскім конкурсе ў Беластоку. Другі дыплом і спецыяльную ўзнагароду яна атрымала ў конкурсе беларускай песні для школьнікаў у Нараўцы.

**— Спадар консул, ці не маглі б вы і ваша жонка падзяліцца з намі наконт стану вашай душы ў момант развітання з Беласточчынай?**

— У дыпламатаў такая прафесія, што калі ён працуе на чужыне — сумуе па радзіме. Тут, у Беластоку, мы знайшлі знаёмых, сяброў — і трэба выязджаць. То дома, то — заграніцай. Мы закахаліся ў Беласточчыну. Я зразумеў Алеся Барскага, які пісаў: "Беластоцкі край — мая айчына". Розных паперак у час нашай працы было шмат, але і шмат чалавечых кантактаў. Сотні, тысячы людзей. Дзеячы, кіраўнікі мясцовых улад на Гайнаўшчыне і Бельшчыне, настаўнікі, спявачкі, журналісты... Нават не буду старацца іх пералічыць, бо баюся, каб кагосьці не пакрыўдзіць, не назваўшы яго.

Усе яны ў нечым розныя. У кожнага свой характар, свой падыход да беларускіх спраў. Але яднае іх тое, што яны — змагары за беларускасць. Назаўсёды застанецца ў маёй памяці словы з верша Віктара Шведа, да якіх і я хацеў бы далучыцца:

*"Я — беларус і гэтым*
*ганаруся,*
*Усім душу сваю магу*
*адкрыць:*
*Ніколі і нідзе не адракуся,*
*Што беларусам жыў і буду*
*жыць!"*

Я прыехаў у Польшчу, у Беласток, і пачаў наведваць Гайнаўшчыну, Бельшчыну, Гарадоччыну, Сямятыччыну, а людзі гаварылі са мной па-беларуску, як гаварылі іх дзяды і бацькі, і мне было радасна ад гэтага. Ад консула яны чакалі не столькі канкрэтнай дапамогі, колькі добрага слова, маральнай падтрымкі. Шчырасць тутэйшых — галоўнае багацце Беласточчыны.

Спадзяюся, польскія ўлады зразумеюць, што беластоцкія беларусы — грамадзяне Рэчы Паспалітай. Падтрымка беларускай культуры ўзбагачае ўсю польскую культуру. Зыходзячы з намераў уступлення ў Еўрапейскі Саюз, Польшча будзе старацца дастасавацца да прынцыпаў, якія дзейнічаюць у Еўропе ў адносінах да захавання правоў нацыянальных меншасцей. На жаль, з боку рэгіянальных улад мы не маем добрых прыкладаў дапамогі беларусам.

І яшчэ застаецца смутак, што беларусы не жывуць тут у згодзе. Не маю тут на ўвазе яднанне палітычных поглядаў. Я гавару пра аб'яднанне на прынцыпе падтрымання, развіцця і захавання беларускасці.

**("Ніва").**

Польшча.

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

# КАНФЕРЭНЦЫЯ, КОНКУРСЫ

У беларускім таварыстве "Уздым" прайшла канферэнцыя на тэму "Беларусь у маім сэрцы", прысвечаная Дням славянскай пісьменнасці. У канферэнцыі прынялі ўдзел студэнты ДПУ і вучні Беларускай нядзельнай школы. Было прачытана 10 дакладаў на трох мовах.

Гэтай жа тэме прысвячаўся і конкурс сачыненняў і малюнкаў. У конкурсе сачыненняў першае месца заняла Алена Бучэль, другое — Марынка Куцына, трэцяе — Эдгар Крыванс, у конкурсе малюнкаў першае месца прысуджана Жану Удалову, другое — Марынцы Куцыні, трэцяе — Надзі Бучэль. Пераможцы былі ўзнагароджаны дыпломамі і атрымалі падарункі.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**

Латвія, г. Даўгаўпілс.



ЛІТАРАТУРНЫЯ ЧЫТАННІ

# ПРАЎДЗІВАЯ ГІСТОРЫЯ КРАІНЫ ХЛУДАЎ

**Алег МІНКІН**



### ВУЗКАЯ ШЧЫЛІНА Ў ВЫСОКІМ КВАДРАТНЫМ ПАРКАНЕ

Уначы па прылёце Цмока Калывока й масавым разьдзіраньні кашуляў усчалася страшэнная навальніца. Гахалі хвасткія перуны. Зіхалі маланкі, выхопліваючы на імгненьне з чарнільнай цемрадзі зьбялелыя твары хлудаў, якія ў жаху ўцісkваліся ў ложкі. Іншаземец Шампанскі мітусіўся па шматлікіх пакоях свайго асабняка, запіхваючы ў валізкі параскіданыя па падлозе рэчы. "Зьеду, зьеду, зьеду!" — паўтараў ён, ня чуючы сябе самога.

Навальніца гэтак жа нечакана сьціхла, як і пачалася. І ўсе пачулі, як сьпярша ценька зазьвінеў, а потым пагрозьліва затросься шкляны і парцалянавы посуд. Са столі й сьценаў пасыпаліся пляйстры тынку. Дзіка заверашчэлі жанчыны й, схапіўшы на рукі дзяцей, кінуліся вонкі з хатаў. Зямля хадзіла ходырам, і над усім чуўся ненатуральны, злавесны скрыгат — гэта гойдаліся ў пазах бярвеньні Высокага квадратнага паркану. На шчасьце, гэта доўжылася ўсяго некалькі хвілінаў. Праўда, жах, які апанаваў хлудаў, быў такі вялікі, што яны доўга не адважваліся вярнуцца ў хаты.

Ранкам між бярвёнаў Высокага квадратнага паркану была выяўлена тонкая шчыліна, якая вілася па ягоным перыметры, робячы мудрагелістыя, падобныя да кабалістычных знакі. Зазірнуўшы ў шчыліну, можна было ўбачыць напаўпразрыстую густую вадкасьць, якая, аднак, не знаходзілася ў стане спакою й несупынна пульсавала. Што гэта было, вызначыць так нікому й не ўдалося. Але самае дзіўнае было тое, што з краёў шчыліны бачылася жаўтлявае вадкае рэчыва, і неўзабаве ўздоўж паркану ўтварыліся бурштынавага колеру лужыны з прыемным і зваблівым пахам "Горкага палыну". Самыя сьмелыя з хлудаў, якія насьмеліліся пакаштаваць тае вадкасьці, у хуткім часе зрабіліся нейкія не такія: яны то без дайпрычыны сьмяяліся, то пачыналі плакаць наўзроў, імкнучыся праціснуцца ў вузкую шчыліну ў паркане. Шмат хто зь іх пасьля скончыў жыцьцё самагубствам.

### КАМУ Ў СУСЬВЕЦЕ ЖЫЦЬ ДОБРА!

Зразумела, што кудлатыя, з бэзавымі хусткамі на шыях рухавыя адразу зьненавідзелі абрытых нагала нерухомых у кашулях, сьпехам зацыраваных каляровымі ніткамі. І хоць невядома, хто і ў каго першы кінуў непагаслы канчар цыгарэты, відавочна, аднак, што звычка кідацца падчас спрэчак недакуркамі таксама ўзьнікла з узаемнай варожасьці. Неўзабаве ніхто ўжо не зьдзіўляўся, сустрэўшы рухавага або нерухомага з апаленымі брывамі або плястырам пад вокам. І толькі пісьменьнік Цьвінтарэй не пераставаў зьдзіўляцца гэтаму. Ён назіраў, зь якім спрытам закідваюць ідэйныя ворагі адзін аднаго палаючымі недакуркамі, слухаў зьнеvažальную лаянку накшталт: "Як твая хата будзе гарэць, дык і мне будзе добра рукі пагрэць!", "Самы лепшы нерухомы — гэта нерухомы нерухомы!", — і з маркотаю думаў, што й аднае цыгарэты дастаткова, каб спаліць Хлудзію разам з усімі хлудамі. Твар былога народнага пісьменьніка крывеліўся ад моцнага душэўнага болю, аднак ніхто са спрачальнікаў не зважаў ні на самога пісьменьніка, ні на журботны выраз ягонага твару.

Таго вечара Цьвінтарэй апынуўся каля не закапанага яшчэ канала. Ён спыніўся на грудзе зямлі, якую, магчыма, сам і выбраў з дна канала, і прагна ўдыхнуў волкае, набрынялае пахам згнілай драўніны паветра. Потым закінуў голаў і занурыўся у сузіраньне зорак, параскіданых па цёмна-сінім квадраце хлудзкага неба. Ён, Цьвінтарэй, быў для іх адно толькі драбнюткаю парушынкаю, і ім было ўсё роўна, хто ён, народны пісьменьнік, сьмяцяр, рухавы або нерухомы, ці нават сам гаспадар Хлудзіі... Чырвоныя зоркі й белыя, падвоеныя й самотныя, волаты й карлы... Цьвінтарэй заплюшчыў вочы — і перад імі паўсталі сьпіральныя галяктыкі, якія зь неверaемнаю хуткасьцю разьляталіся ў космасе, малінавыя аблокі крабападобных туманнасьцяў, загадкавыя звышшчыльныя кроплі матэрыі, ад якіх нараджаюцца Сусьветы й небясьпечныя чорныя дзіркі ў прасторы, вырвацца зь якіх немагчыма. Ён уявіў вечнасьць у выглядзе бясконца Высокага квадратнага паркану, адзін канец якога пачынаецца ў Хлудзіі, а другі зьнікае ў цёмным аксаміце начнога неба. У бясконцую гэтую студню можна ўвайсьці, але выйсьці стуль немагчыма, і ніхто не даведаецца ніколі, дзе ты й што з табою...

Твар заказыталі халодныя мокрыя мухі. Цьвінтарэй расплюшчыў вочы і ўбачыў, што ніякіх зорак ужо няма, а замест іх угары паўзе бухматая сьнегавая хмара. З Пляцу даносіўся глухі, бы шум прыбою, рокат, а ў прыцемку местачковых вуліцаў успыхвалі й гаслі жоўтыя й сінія зьнічкі: гэта рухавыя й нерухомыя ўсё яшчэ закідвалі адзін аднаго недакуркамі й запалкамі. І пісьменьніку здалося, што проста ў Высокім квадратным паркане зеўрыць чорная дзірка, якая цікуе за невялічкім шматком прасторы, што завецца Краінаю Хлудаў.

Вярнуўшыся дахаты, Цьвінтарэй дапісаў апошнюю старонку свайго апошняга раману "Каму ў Сусьвеце жыць добра?". Нікому — такую выснову зрабіў знакаміты хлудзкі пісьменьнік... Далібог, хлуды нізавошта не сварыліся б і не закідвалі адзін аднаго недакуркамі, каб маглі прачытаць вялікія і ўвадначасьсе такія простыя думкі пісьменьніка Цьвінтарэя.

### ГІСТАРЫЧНЫЯ ПЕРАМОВЫ

Шынкар Лажбель чухаўся, пазяхаў і ссоўваў сталы ў адзін доўгі шыхт пасяродку залі. Цяпер немагчыма было адрозьніць, дзе той столік, за якім Шампанскі зусім яшчэ нядаўна сьвяткаваў дзень нараджэньня; дзе той, які ўпрыгожвала непараўнаная Гарэзія Набіванка — ах, як чароўна ўсьміхалася яна, абменьваючыся з мастаком Круцелем Манцэлем мудрагелістымі фразамі! — дзе той, за якім Хіцер Зьміцер — каб ён да заўтрага не дажыў! — чытаў багемаўцам свае незразумелыя нікому вершы; дзе той, за якім вечараваў сам гаспадар Вярэня Водае... Ад гэткае шэрае неакрэсьленасьці Лажбелю зрабілася няўтульна ў сваім шынку. Ён моцна зажурыўся й падумаў, што неўзабаве можа стацца, і шынок ягоны, і сам ён, і, наогул, усе хлуды разам з Хлудзіяй могуць зрабіцца попелам.

Стары шынкар ссоўваў сталы, а час мерна адлічваў хвілі, якія заставаліся да пачатку гістарычнай сустрэчы верхавода рухавых Хіцера Зьміцера й лідэра нерухомых Цмока Калывока. І прывіды, што густою чарадою луналі пад скляпеньнямі шынка, у прызначаны час пабраліся за рукі й зь нячутным енкам назаўсёды пакінулі Лажбеля.

Блізу паўдня ў шынку пачулася вясёлая гамана, якую разпораз заглушала дзыньканьне келіхаў і спорнае шкрабатаньне відэльцаў. Крыху пазьней пасыпаліся, як гарох, анікому непатрэбныя прызнаньні ў вечнай любві й сяброўстве. А пры самым канцы гістарычных перамоваў з-пад сьвяточнага стала вылез напышлівы стары ў цёмных акулярах. Усе так і пазамiралі, калі пачулі грукат ягонага падарожнага кія. А стары лёгка ўскочыў на бяседны стол і, перакульваючы келіхі зь недапіткамі "Горкага палыну", сподкі й крышталёвыя вазы, важна прадэфіляваў перад носам у Хіцера Зьміцера й Цмока Калывока, упэўнена грукаючы перад сабою кіем, нібыта йшоў ён не па стале, а па шырокім праспекце Маралістых-Эквілібрыстых... Хіцер і Цмок, якія дагэтуль сядзелі, па-братэрску абняўшыся, незадаволена адсунуліся адзін ад аднаго, і ўсе зразумелі, што сяброўская сустрэча рухавых і нерухомых безнадзейна сапсутая, і адчулі марнасьць і хлусьню таго, што адбывалася й чаго яны імкнуліся дасягнуць. І сутоньне, густое й глыбокае, якое быццам вата цiснулася знадворку ў проймы вокнаў, апанавала іхнія душы.

### ВОСЬ ДА ЧАГО МОГУЦЬ ДАВЕСЬЦІ ПРЫНЦЫПЫ!

Ніхто ня ведаў дакладна, адкуль узяўся агонь. Хутчэй за ўсё хтосьці з рухавых або нерухомых шпурнуў у свайго ворага канчаром непагаслай цыгарэты, а той з прынцыпу не пагасіў яго. Вось да чаго могуць давесьці прынцыпы!

Агонь падкрадваўся да хаціны Цьвінтарэя мякка й няўхільна, быццам пунцовая тыгра, якая заўважыла здабычу і падбіраецца да яе на нячутных для вуха лапах. Вось страхамордлівы зьвер языком лізнуў друкавальную машынку, і толькі што надрукаванае ўспыхнула зыркім цяпельцам і попелам асыпалася на падлогу. Цьвінтарэй закашляўся ад дыму й высунуўся ў яшчэ не ахопленае полымем акно.

На вуліцы Туманнага парадоксу стаяў велізарны натоўп хлудаў і хлудак. Яны стаялі ў здранцьвеньні, пабраўшыся за рукі, не раўнуючы, як спалоханыя агнём дзеці. Зараз яны ўжо не былі рухавыя або нерухомыя: куды толькі падзелася іхняя нядаўняя варожасьць! Некалі зацятыя ворагі, ахопленыя жахам, глядзелі ўгору, куды ўзьнімаўся дым і адкуль спускалася чорная хмара. І хоць агонь разгараўся, рабілася ўсё халадней і халадней. Раптам нябачныя ніколі раней чорныя птушкі з вогненнымі глюгамі, абганяючы адна адну, імкліва пранесьліся ў небе, пакідаючы пасьля сябе агністыя сьляды. І квадрат хлудзскага неба, сьпярэшчаны траекторыямі лёту злавесных птушак, умомант зрабіўся падобны да агромністых кратаў. І тады штосьці загуло й разам сціхла: гэта абрынуўся Высокі квадратны паркан. Як хваля, лінула на Краіну Хлудаў нейкая вязкая цякоміна, усё патанула ў каламутнай кругаверці, і ніхто не ўратаваўся. Толькі шалёныя віры разпораз зьяўляліся й зьнікалі з хісткай раўніны цёмнага мора, ды сіратліва калыхаўся дзівам ацалелы, блакітны сшытак Шампанскага. "Што хлудам трэба для шчасьця? Трохі каханьня, жменька зорак над галавою, кропля спагады..."

Заканчэнне.
Пачатак у №№ 29—31.

РОЗГАЛАС

# ГАСПАДАР СТАЛА

● **Віктар ЯГОРЧАНКА.**

Мы прывыклі да таго, што кожны дзень можам пайсці ў краму і набыць там бохан хлеба або батон. А нашы дзяды не мелі такой магчымасці і выпякалі хлеб самі, таму вельмі яго шанавалі.

Хлеб з'явіўся 7 тысяч гадоў назад, і рабілі яго з прэснага цеста. Лічылася: хто не есць хлеба, будзе хварэць. Хлеб з'яўляецца атрыбутам многіх абрадаў і звычаяў (напрыклад, "хлеб-соль"). Калі гаспадыня выпякала хлеб, то чытала перад гэтым малітву, а дзеці павінны былі злезці з печы і не крычаць, бо існавала павер'е, нібыта ад гэтага хлеб патрэскаецца. Не дазвалялася таксама, каб чужое вока бачыла выпечку хлеба.

Існавала некалькі тыпаў хлеба: чорны (жытні), сітны (прасеяны праз сіта, чысцяк), пірагі, паловы (50 працэнтаў жыта і 50 працэнтаў аўса або ячменю), пеклеваны хлеб (жыта з ячменем), бульбяны, пушны (з мякінай), які, дарэчы, добра ачышчаў страўнік.

З прэснага цеста выпякалі праснакі, на Сорокі — жаўранкаў, пяклі бліны і аладкі, рыхтавалі клёцкі, макароны, куляшы. З жытнёвай мукі гатавалася саладуха (прарошчанае жыта запарвалі ў гаршку, каб забрадзіла, потым ставілі ў печ, а затым у холад. І саладуха рабілася салодкай). А як прыходзіў Вялікдзень, па хаце разліваўся духмяны пах пірагоў, калачоў, крэндзеляў.

Круглы бохан хлеба не толькі з'яўляецца сродкам падтрымання жыццядзейнасці чалавечага арганізма і адным з неабходных харчовых кампанентаў нашага стала. Сама форма круглай булкі нясе ў сабе магічны сэнс, закончаную думку кругавароту жыцця і чалавечага існавання. Круг, кола — значыць, сонейка, якое дае жыццё ўсяму жывому, сямейны побыт людзей, круг родзічаў, знаёмых, сяброў. Таксама кола азначае кругаварот у прыродзе — зіма, вясна, лета, восень. Нездарма на свяце Купалля адзін з сімвалаў — драўляныя колы, або каткі, якія спальваюцца на агні ў знак таго, што пачынаецца новы кругаварот жыцця ў прыродзе, паварот на зіму. Круглы хлеб — сімвал нашай планеты Зямля, менавіта таму самага дарагога чалавека ў нас на Беларусі сустракаюць хлебам-соллю.

ГОСЦІ З ДАНІІ



Сустрэча дацкіх гасцей адбылася ў гомельскай школе № 10. Дзесяць гадоў назад, калі ў Гомель прыехаў вядомы дацкі пісьменнік Ёрген Кнудсцен, гэта школа з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы як нельга лепш змагла сустрэць і прыняць госця. Потым былі паездкі настаўнікаў і школьнікаў у Данію, практычныя заняткі дацкіх выкладчыкаў у Гомелі, гамяльчан — у дацкім горадзе Эктведзе. Паступова стварылася асацыяцыя дружбы "Гомель — Эктвед", якая вось ужо шмат гадоў падтрымлівае цёплыя сяброўскія адносіны.

НА ЗДЫМКУ: сустрэча дацкіх гасцей у Гомелі.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.

АКТРЫСА І ТЭАТР



## Алена УНУКАВА:

# «ГАЛОЎНАЕ — ЗАХАВАЦЬ СЯБЕ»

**Яшчэ будучы студэнткай тэатральна-мастацкага інстытута, Алена Унукава іграла ў Нацыянальным тэатра імя Янкі Купалы. Затым — некалькі гадоў — у Маладзёжным тэатры. Дзякуючы ёй, беларуская моладзь (амаль на кожным спектаклі аншлаг!) адчувала мудрасць і рамантызм Шэкспіра. Алена выконвае ролю Джульеты ў прыгожым дзействе "І зноў Рамэо і Джульета". Працуе ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Максіма Горкага, дзе занята ў спектаклях "Ваўкі і авечкі" і "Дэметрыус".**

**Рэжысёр Мікалай Пінігін запрасіў яе ў спектакль "Бедная Ліза". Гэтая нашумелая ў сёлетнім тэатральным сезоне пастаноўка ў многім абавязана сваім поспехам менавіта Алене Унукавай. Яшчэ яна іграе ў папулярным камедыйным тэлевізійным серыяле "Паскораная дапамога", які паказваюць на расійскім тэлеканале ГРТ.**

**У хуткім часе Алена спадзяецца на выхад кнігі сваіх вершаў. У яе — 15-гадовы сын. І яна ў свае 34 гады хацела б нарадзіць яшчэ адно дзіця. Актрыса лічыць, што дзеці — самае лепшае ў жыцці. Усё астатняе прыдуманае, ад нячыстага":**

— Сапраўдная творчасць — менавіта ў выхаванні дзяцей, — лічыць Алена. — Глядзець, як з маленькай істоты вырастае чалавек, які размаўляе, нешта ўмее — так цікава! Толькі нараджаць дзіця трэба свядома. Калі ты можаш ацаніць радасць і асалоду мацярынства. У 19 гадоў гэта часцей толькі адказнасць і страх. Пасля трыццаці — зусім іншая справа. Тады разумееш, што выгадаваць дзіця — больш цікава, чым вынасіць ідэю спектакля, потым іграць у ім, пакланяючыся яму, быццам ідалу. Тэатр — не жыццё, хоць змяняецца падобна яму. І ўвогуле сёння тэатр — не той, які быў, напрыклад, калі я прыйшла ў мастацтва.

**— Вы ігралі ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Максіма Горкага. Гэта даволі прэстыжна. Як вы туды трапілі?**

— Спачатку мяне запрасілі на ролю. Затым прапанавалі ўвесціся ў некалькі гатовых спектакляў. Але я адмовілася: мне гэта не падабаецца. На жаль, добрай галоўнай ролі не прапануюць. А дзеля выпадковых я не магу кінуць праекты, у якіх ужо ўдзельнічаю. Хаця тое, што я раблю ў тэатры, цікава, бо Барыс Луцэнка заўсёды пакідае ў сваіх творах месца для імправізацыі акцёраў. А ў цэлым у Рускім тэатры, як і паўсюль. Яго таксама закрануў тэатральны крызіс.

**— Тэатральны крызіс, на вашу думку, што гэта такое?**

— Калі добрыя акцёры, не вытрымаўшы прыніжанага становішча, пакідаюць тэатры. Каб іграць, неабходна быць забяспечаным. Інакш зацыклішся на бытавых праблемах. Глядзельная зала і артыст узаемазвязаныя. Якім бы акцёр ні быў мужным, энергетыка перадаецца людзям, адмоўная — заражае дэпрэсіяй гледача. Я лічу гэта злачынствам. Тэатр не мае сэнсу, калі не ўздымае над паўсядзённасцю і не дае станоўчай энергіі.

Крызіс яшчэ ў тым, што беларускія акцёры не могуць ездзіць за мяжу, каб глядзець значныя пастаноўкі. Ім не хапае руху, паветра. Мы варымся ў сваім саку, знаходзімся ў замкнёнай прасторы.

**— Што тут можна змяніць?**

— Я спрабавала ладзіць адзін самастойны праект. Быў такі спектакль у Маладзёжным тэатры "Я хачу быць каханай", прысвечаны Мерлін Манро, з якім нас запрашалі на тэатральны фестываль у Егіпет, дзе ён увайшоў у дзесятку лепшых. Гэтая пастаноўка, як і "Сакрэт Шахерэзады", была непадобная на ўсе іншыя ў Мінску. Шмат пластыкі і мінімум слоў. Але працягу праект не меў. У рэшце рэшт цяпер з рэпертуару Маладзёжнага тэатра ўвогуле зняты спектаклі "Сальвадор Далі", "Сакрэт Шахерэзады", "Брыдкае качаня", "Я хачу быць каханай".

**— Давайце пагаворым пра спектакль Мікалая Пінігіна "Бедная Ліза", які, на мой погляд, стаў адным з самых яркіх у сёлетнім сезоне. Мне здаецца, ён не для масавага гледача. Аднак мае вялікую папулярнасць...**

— Я таксама не была ўпэўнена, што людзі пойдуць на яго. Але ж памылілася.

Мне цікава працаваць у гэтым спектаклі, паспрабаваць сябе як спяваючую актрысу. Але тут шмат часу і намаганняў займае тэхнічны бок — праблемы са святлом, сцэнай. З-за таго, што яна нетэатральная, "Бедная Ліза" шмат губляе. Не хапае рэкламы. А вось акцёрскі калектыў — Віктар Манаеў, Зоя Белахвосцік, Віталій Радзько — сапраўды асаблівыя. Перад выхадам да гледача мы нават становімся ў круг і чытаем малітву.

Для мяне "Бедная Ліза" нешта большае, чым спектакль. Часам здаецца, што гэта споведзь. На сцэне, праўда, нельга спавядацца. Аднак надараецца момант ачышчэння — спалучаешся з душамі гледачоў...

**— Праграма "Паскораная дапамога" зусім іншая, разлічана на масавы прагляд...**

— Яна забаўляльная. Часцей за ўсё смешная. А станоўчыя эмоцыі шмат чаго вартыя.

**— "Паскораную дапамогу" здымае беларуская група, занятыя нашы акцёры. У выніку ў параўнанні з расійскімі атрымліваецца недарагая перадача. Ці не адбываецца так, што беларускіх акцёраў выкарыстоўваюць у якасці таннай працоўнай сілы?**

— Сёння для многіх такая праца — магчымасць выжыць. Нам нядрэнна плацяць. Калі ж беларускія артысты самі згаджаюцца працаваць за капейкі, зразумела, больш ім і не заплацяць. Такога нельга рабіць. Звычайна чалавек атрымлівае ад жыцця тое, чаго чакае і хоча. Ён сам павінен клапаціцца, каб ім не маніпуліравалі.

**— Дзякуючы "Паскоранай дапамозе" ваш твар ведае не толькі ўся Беларусь, але і вялізная расійская тэлеаўдыторыя.**

— Гэта цешыла толькі спачатку, нядоўга. Я вучуся жыць у канкрэтных абставінах і атрымліваць задавальненне ад простых рэчаў — размоў, сонца, снегу...

**Алена СПАСЮК.**

НА ЗДЫМКУ: Алена УНУКАВА і Віктар МАНАЕЎ у спектаклі "Бедная Ліза".

ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА

# МУЖЫКІ І ПАН

Даўным-даўно, пры панах, выдаўся галодны год. Лета было сухое, спякотнае. А ўсю восень дажджы ішлі, і бульба пагніла ў зямлі. Жылі побач хутарамі два мужыкі — Архіп і Піліп. Ім горш за ўсіх давялося. Пабедавалі яны, параіліся і пайшлі да пана дапамогі прасіць.

Прыйшлі, шапкі знялі, кланяюцца. Пан толькі што паеў, добры, глядзіць прыхільна, пасміхаецца:

— Памагу, мужычкі! Але пры адной умове. Калі не будзеце лісліваць і хваліць мяне.

Здзіўлена пераглянуліся Архіп з Піліпам. Што можа быць лягчэй? Першы раз чалавека бачаць, які не любіць, каб яго хвалілі.

— Ну дык ідзіце тады на кухню, паабедайце спярша.

Павялі мужыкоў на кухню, пасадзілі на чыстую лаўку, паставілі місу гарачага баршчу, смажаную качку. А пан збоку сеў, пазірае.

Высербалі мужыкі боршч і лыжкі аблізалі. Ад качкі толькі ўзялі па кавалачку на смак, а самую падзялілі і па торбах пахавалі — дадому занесці.

— Ці ўгадзіў я вам, мужычкі? — пытае пан.

Архіп толькі рот адкрыў, а Піліп — штурх пад бок!

— Праваліся ты са сваім абедам. Прывёў, як сабак, на кухню, не мог у зале пасадзіць. Наліў у адну міску, не мог кожнаму па місцы знайсці. Боршч кіслы, а качка сухая і цвёрдая.

Пан засмяяўся, паківаў галавою і дае Піліпу залаты. Піліп схаваў адразу ж яго ў торбу, а сам хмурыцца:

— Пры сваіх грашах мог бы і жменю залатых насыпаць!

Павёў пан мужыкоў у залу, пасадзіў у мяккія крэслы, дазволіў люлькі курыць. А сам зняў са сцяны скрыпку ды так мілагучна, жаласна зайграў, што ў мужыкоў слёзы пакаціліся па твары. Тады пан хутчэй смыкам шморгаць пачаў, весялей, аж мужыкі ў ладкі заляскалі. І на люлькі забыліся.

Павесіў пан урэшце скрыпку, пытае:

— Ці адпачылі вы пасля абеду, мужычкі?

Не паспеў Архіп рот адкрыць, як Піліп зноў — штурх пад бок!

— Які абед, такі й адпачынак. Мой падсвінак у хляве лепей пішчыць, чым ты граеш!

Пасмяяўся зноў пан, даў Піліпу другі залаты.

— Ну а цяпер прасіце, — кажа, — колькі грошай вам трэба на дапамогу.

Не вытрымаў тут Архіп:

— Ты нас карміў, паіў, іграў нам, грошай хочаш даць. І за гэта ўсё трэба цябе лаяць? Не давай мне лепей нічога, але ведай: харошы ты чалавек, і дай табе Бог здароўя!

Засмяяўся пан трэці раз, абняў Архіпа:

— Дзякуй, добрая душа!

І загадаў насыпаць яму поўныя кішэні залатых. А Піліпу толькі і сказаў:

— Не будзь, братка, свіннёй. Плаці людзям тым, чым яны табе: за дабро — дабром.

**Андрэй ФЕДАРЭНКА.**

СПОРТ



БелТА.

Падводнае паляванне ў нашай краіне з'яўляецца унікальным відам спорту. І працяглы час мацнейшымі ў ім лічацца брэстчане, якія могуць сваімі рукамі зрабіць і падагнаць экіпіроўку, змайстраваць падводныя стрэльбы, прызнаныя ў Еўропе. А пачатак усяму паклаў Анатоль Сінягубаў. Разам з Віктарам Страхавым, Ігарам Казлоўцавым, Сяргеем Залозным яны і ў гэтым годзе занялі першае каманднае месца на чэмпіянаце Беларусі па падводнаму паляванню, які праходзіў на возеры Мядзель. А ўдзельнічала ў ім 30 каманд.

НА ЗДЫМКУ: момант трэніроўкі.

**Фота Рамана КАБЯКА.**


**«Голас Радзімы»**

**Намеснік галоўнага рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:

Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.** Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.** Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.** Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.** Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.** Спецыяльны карэспандэнт **Нэлі ПРЫВАЛАВА.** Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.** Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.** Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 652 экз.
Зак. 1934.
Падпісана да друку 7.8.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).